# Голас Радзімы

№ 48 (1982)
27 лістапада 1986 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Вешанка — так называюцца гэтыя грыбы, якія па смаку не ўступаюць баравікам і, акрамя таго, маюць гаючыя вартасці. У рэстараны і кафэ беларускай сталіцы іх пастаўляе Мінскі доследны лясгас, на дзялянках якога вырошчваюць вешанку. Справа гэта няпростая і даволі працаёмкая. Спачатку ў лабараторыі вырошчваецца грыбніца. Потым яе «сеюць» паміж радамі закладзеных у яму і добра прамочаных вадой асінавых чурбакоў і закрываюць поліэтыленам. Праз пэўны час чурбакі дастаюць і закопваюць так, як бачна на здымку. Пройдзе тыдні два, і можна збіраць ураджай. Займаюцца вырошчваннем грыбоў у лясгасе ўсяго два чалавекі.

НА ЗДЫМКУ: на гэтай дзялянцы былі сабраны сёлета сотні кілаграмаў вешанкі.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

У Маскве адбылася чарговая сесія Вярхоўнага Савета СССР — вышэйшага органа дзяржаўнай улады нашай краіны. Дэпутаты абмеркавалі шэраг пытанняў: аб Дзяржаўным плане эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1987 год і аб ходзе выканання плана ў 1986 годзе; аб Дзяржаўным бюджэце СССР на 1987 год і аб выкананні бюджэту за 1985 год; аб дзейнасці Камітэта народнага кантролю СССР; аб праекце Закона СССР аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці.

Па ўсіх разгледжаных на сесіі пытаннях былі прыняты адпаведныя рашэнні.

Вярхоўны Савет СССР выступіў са Зваротам да парламентаў і народаў свету па самай надзённай праблеме сучаснасці — праблеме захавання міру, прадухілення ядзернай пагрозы. Савецкія парламентарыі заклікаюць рашуча выступіць за практычны пераход да пабудовы без'ядзернага свету, роўнай для ўсіх дзяржаў надзейнай бяспекі. Вярхоўны Савет СССР урачыста пацвярджае, гаворыцца ў Звароце, што СССР не знімае ні адной з унесеных ім у Рэйк'явіку прапаноў, накіраваных на ліквідацыю ўсіх ядзерных сродкаў.

З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ

## ВЫСТУПЛЕННЕ МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БССР

На пленарным пасяджэнні 41-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН пры абмеркаванні пытання «Становішча ў Цэнтральнай Амерыцы: пагроза міжнароднаму міру і бяспецы і мірныя ініцыятывы» выступіў міністр замежных спраў БССР А. Гурыновіч.

Агрэсіўныя і падрыўныя дзеянні сіл імперыялізму, іх стаўленікаў і наёмнікаў супраць краін Цэнтральнай Амерыкі і Карыбскага басейна не толькі не спыняюцца, але нават узмацняюцца, сказаў ён. Працягваюцца сілавы націск на Кубу, агрэсіўныя дзеянні супраць Нікарагуа, умяшанне ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў гэтага раёна. Робіцца ўсё гэта Злучанымі Штатамі або пры іх прамой падтрымцы.

Беларуская ССР рашуча асуджае агрэсіўныя акцыі ЗША супраць Нікарагуа, выдзяленне імі для гэтых мэт 100 мільёнаў долараў у бягучым фінансавым годзе, заявіў А. Гурыновіч. Мы актыўна падтрымліваем прапановы і мірныя ініцыятывы Нікарагуа, Кубы, кантадорскай групы і іншых краін у мэтах нармалізацыі становішча ў раёне Цэнтральнай Амерыкі і Карыбскага басейна з тым, каб народы гэтага раёна маглі жыць ва ўмовах міру, свабоды і ажыццяўляць свае планы эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу без умяшання звонку.

ПРАЕКТ РЭЗАЛЮЦЫІ

## У ІНТАРЭСАХ МІРУ, НА КАРЫСЦЬ ЧАЛАВЕЦТВА

Хутчэйшае ажыццяўленне дэкларацый аб выкарыстанні навукова-тэхнічнага прагрэсу ў інтарэсах міру і на карысць чалавецтва будзе садзейнічаць умацаванню міру і бяспекі народаў, іх эканамічнаму і сацыяльнаму развіццю. Аб гэтым гаворыцца ў праекце рэзалюцыі, прадстаўленым ад імя сацыялістычных і недалучаных краін дэлегацыяй Беларускай ССР у Трэцім камітэце (сацыяльныя, гуманітарныя пытанні і пытанні культуры) 41-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

У дакуменце выказваецца сур'ёзная занепакоенасць тым, што вынікі навукова-тэхнічнага прагрэсу могуць быць выкарыстаны ў інтарэсах гонкі ўзбраенняў, на шкоду міжнароднаму міру і бяспецы, сацыяльнаму прагрэсу. У сувязі з гэтым аўтары праекта рэзалюцыі падкрэсліваюць важнасць выканання ўсімі дзяржавамі палажэнняў і прынцыпаў, змешчаных у праекце, і заклікаюць краіны — члены ААН прыкласці ўсе намаганні для выкарыстання дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу ў мэтах садзейнічання мірнаму эканамічнаму, сацыяльнаму і культурнаму развіццю народаў.

ПРАФСАЮЗНЫЯ КАНТАКТЫ

## САВЕЦКА-ФІНЛЯНДСКІ СЕМІНАР

У Мінску знаходзілася дэлегацыя прафсаюза металістаў Фінляндыі на чале з іх першым сакратаром О. Ісовііта. Прафсаюзныя актывісты наведалі завод халадзільнікаў, дзе сустрэліся з рабочымі і прадстаўнікамі адміністрацыі, азнаёміліся з умовамі працы і быту на прадпрыемстве. Тут жа адбыўся савецка-фінляндскі семінар, прысвечаны пытанням сацыяльна-эканамічных вынікаў тэхналагічных новаўвядзенняў у прамысловасці і задачам прафсаюзаў па прафтэхпадрыхтоўцы рабочых і служачых.

Выступіўшыя на семінары адзначалі разнастайнасць сацыяльных і эканамічных праблем, выкліканых да жыцця прымяненнем прамысловых робатаў, сістэм аўтаматычнага кіравання з выкарыстаннем мікрапрацэсараў, іншых дасягненняў навукі і тэхнікі.

Госці наглядна пераканаліся, што на савецкіх прадпрыемствах укараненне новай тэхнікі і тэхналогіі накіравана на больш поўнае задавальненне сацыяльных патрэб, павышэнне дабрабыту працоўных.

КАНСТРУКТАРСКІЯ РАСПРАЦОЎКІ



Каля сямі працэнтаў станкоў, якія сёння выпускаюцца ў СССР, спраектаваны ў Віцебскім спецыяльным канструктарскім бюро. Кожны рубель, затрачаны яго спецыялістамі на стварэнне высокапрадукцыйнага абсталявання і аўтаматычных ліній, дае народнай гаспадарцы краіны пятнаццаць рублёў эканамічнага эфекту. Распрацаваныя тут станкі аснашчаюцца лічбавым праграмным кіраваннем, маніпулятарамі.

НА ЗДЫМКУ: начальнік канструктарскага бюро Уладзімір СІТАЎ (злева) з вядучымі спецыялістамі Сяргеем КАЛЕСНІКАВЫМ і Валянцінам БЕНДЗІКАВЫМ.

ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

## ВІЗІТ КІТАЙСКІХ МЕДЫКАЎ

У Мінску пабывала група прадстаўнікоў кітайскай медыцынскай грамадскасці на чале з прэзідэнтам Акадэміі медыцынскіх навук КНР, прафесарам Гу Фанчжоу. Мэта візіту — азнаямленне з савецкай сістэмай аховы здароўя і дзейнасцю Таварыства савецка-кітайскай дружбы (ТСКД). У паездцы гасцей суправаджаў 3-ці сакратар пасольства КНР у СССР Чжан Яньнянь.

Члены дэлегацыі сустрэліся з кіраўніцтвам Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, рэспубліканскага аддзялення Таварыства савецка-кітайскай дружбы. Госці пабывалі ў Мінскай гарадской бальніцы хуткай дапамогі, Навукова-даследчым інстытуце кардыялогіі, наведалі Мінскі медыцынскі інстытут.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## СКЛАДАННЕ ВОПЫТУ І СІЛ

Праблемам паскоранага развіцця вытворчасці тавараў народнага спажывання было прысвечана 47-е пасяджэнне пастаяннай камісіі СЭУ па супрацоўніцтву ў галіне лёгкай прамысловасці, якое адбылося ў Мінску. У ім прынялі ўдзел дэлегацыі Балгарыі, Венгрыі, В'етнама, Кубы, Манголіі, Польшчы, Румыніі, Савецкага Саюза і Чэхаславакіі.

У выступленнях адзначалася, што за апошнія гады галіна дабілася прыметнага прагрэсу. Гэтаму ў немалой ступені садзейнічалі дзелавыя кантакты, абмен вопытам паміж аднатыпнымі прадпрыемствамі краін сацыялістычнай садружнасці. Палепшана забеспячэнне насельніцтва высакаякаснымі таварамі, вырасла тэхнічная база, многае зроблена па ўдасканаленню тэхналогіі вытворчасці, кіравання, зніжэнню матэрыялаёмістасці прадукцыі.

Сёння задача ставіцца шырэй: ад простага абмену перадавым вопытам перайсці да сумеснай распрацоўкі прагрэсіўнай тэхнікі і тэхналогіі, аўтаматызаваных сістэм кіравання. Упершыню на шматбаковым узроўні разглядаецца пытанне аб паглыбленні прамых сувязей і стварэнні на іх аснове каапераванай вытворчасці тавараў масавага попыту.

У ходзе пасяджэння былі разгледжаны таксама актуальныя пытанні паскоранага ўкаранення ў лёгкай прамысловасці робатаў, лазернай тэхнікі, мікраэлектронікі.

ЮБІЛЕІ

## УРАЧЫСТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

Шырока адзначалася ў нашай краіне 275-годдзе з дня нараджэння Міхаіла Ламаносава — вялікага рускага вучонага, нястомнага асветніка і гарачага патрыёта сваёй радзімы.

Гэтай даце было прысвечана ўрачыстае пасяджэнне, якое адбылося ў Маскве ў Вялікім тэатры Саюза ССР. На ім прысутнічалі кіраўнікі Камуністычнай партыі і ўрада краіны, дзеячы навукі і культуры, прадстаўнікі грамадскасці, пасланцы міжнародных навуковых арганізацый, вядомыя вучоныя.

На пасяджэнні выступілі прэзідэнт Акадэміі навук СССР акадэмік Г. Марчук, віцэ-прэзідэнт акадэмік К. Фралоў, першы сакратар Архангельскага абкома КПСС П. Целяпнёў, сакратар Саюза пісьменнікаў СССР А. Міхайлаў.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## СУВЯЗІ ПАШЫРАЮЦЦА

У Мінску адбылася шостая справаздачна-выбарная канферэнцыя Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы (ТСПД), якая падвяла вынікі работы за 1981 — 1986 гады, намеціла перспектывы далейшага развіцця сяброўскіх і культурных сувязей беларускай і польскай грамадскасці.

У дакладзе намесніка старшыні праўлення аддзялення, дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР П. Петрыкава, было адзначана, што ў справаздачны перыяд у рэспубліцы створана 36 новых пярвічных арганізацый ТСПД. З поспехам прайшлі ў брацкай краіне Дні беларускай літаратуры, Дні Савецкага Саюза на прыкладзе Беларускай ССР. У нашай рэспубліцы адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя юбілейным датам у жыцці польскага народа.

Канферэнцыя выбрала новы састаў праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы. Яго старшынёй зноў стаў Я. Скурко (Максім Танк) — народны паэт Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай прэміі.

АХОВА ЗДАРОЎЯ



Гэты радзільны дом пабудаваны ў Магілёве на сродкі, зароблены жыхарамі горада на суботніках. Абсталяваны ён наймоцнай лячэбна-дыягнастычнай апаратурай. Верхні здымак зроблены ў кабінеце інтэнсіўнай тэрапіі немаўлят. На пярэднім плане — урач Святлана БАЛВІНАВА. На здымку ўнізе паказаны кабінет функцыянальнай дыягностыкі. Урач Аляксандр КУПРЭЕЎ рыхтуе апаратуру да работы.



МІНСКАЕ МЕТРО

## ПРОБНЫ ПОЕЗД

Рыхтуецца да здачы ў эксплуатацыю яшчэ адна, дзевятая па ліку станцыя «Усход» Мінскага метрапалітэна. 21 лістапада сюды прыбыў пробны поезд.

Яго мэта — праверка якасці ўзвядзення верхняй пабудовы пуцей, узровень выканання іншых будаўніча-мантажных і спецыяльных работ.

Група дзяўчат, апранутых у нацыянальныя беларускія касцюмы, уручыла кветкі машыністу пробнага рэйса В. Зайцу. Пасажырам поезда інфармацыю аб ступені гатоўнасці станцыі «Усход» да эксплуатацыі, аб яе архітэктурна-мастацкіх асаблівасцях далі дырэктар інстытута «Мінскметрапраект» В. Чаканаў і намеснік галоўнага інжынера «Мінскметрабуда» С. Мярцалаў.

Пастаянны рух пасажырскіх паяздоў па маршруту «Інстытут культуры» — «Усход» — намячаецца адкрыць з 26 снежня.

# САЎГАС «БЕЛАРУСКІ» НА ПСКОЎШЧЫНЕ

## III. НАЗАД У ВЁСКУ?

Некалі ў нас многа гаварылі і пісалі пра міграцыю вясковай моладзі ў горад. Праблема была сапраўды вельмі актуальнай. У сельскай гаспадарцы нарастаў дэфіцыт рабочых рук.

Цяпер мы ўсё часцей гаворым пра адваротны працэс: у вёску не толькі вяртаюцца многія з тых, хто некалі пакінуў яе, а сюды таксама едуць жыць і працаваць гараджане, якія ніколі раней не мелі спраў з сельскагаспадарчай вытворчасцю. Саўгас «Беларускі» таму пацверджанне. У абсалютнай большасці яго работнікаў раней былі гарадскія адрасы. І сюды яны прыехалі не ў пошуках вясковай ідыліі, а перш за ўсё таму, што жыццё ў сельскай мясцовасці не пазбаўляла іх тых сацыяльных і культурных даброт, якія яны мелі ў горадзе: такія ж кватэры (нават больш камфартабельныя і прасторныя), той жа набор служб сервісу, школа і дзіцячыя сады, бальніца і Дом культуры...

Акрамя таго — своеасаблівая атмасфера, калі чалавек адчувае сябе сваім сярод сваіх, калі ты ўсіх ведаеш і ўсе ведаюць цябе. Тут, як і ў вёсцы, людзі не абмяжоўваюцца кантактам толькі са сваякамі ці сябрамі, а падтрымліваюцца добрыя старыя традыцыі супольнага жыцця. Збіраюцца, скажам, у наступны выхадны дзень наладзіць паляванне (дарэчы, вельмі папулярны тут від адпачынку), дык пра гэта абавязкова будзе ведаць кожны паляўнічы. Правілам стала прыязнасць і добразычлівасць у адносінах. Злы на язык падтрымкі не знойдзе. Таму, відаць, новы чалавек прыжываецца тут вельмі хутка.

І яшчэ адна асаблівасць. Беларускі — пасёлак маладзёжны. Сярэдні ўзрост яго жыхароў не перавышае трыццаць гадоў. Адукацыйны ўзровень таксама прыкладна роўны — у кожнага за плячамі як мінімум сярэдняя школа. Адсюль і інтарэсы ў людзей блізкія. Напрыклад, у бібліятэцы часцей за іншыя бяруць кнігі Бальзака, Ясеніна, Сіманава, Астаф'ева, Быкава. Найбольш папулярны від спорту — футбол (любімыя каманды, дарэчы, мінскае «Дынама» і маскоўскі «Спартак»).

У выхадныя і святочныя дні галоўным месцам адпачынку становіцца Дом культуры. У кіно і на танцавальныя вечары, якія наладжваюцца тут два разы ў тыдзень, прыходзяць, бадай што, усе. Калі прыязджаюць артысты (яны тут частыя госці), зала таксама поўная. Не меншай папулярнасцю карыстаюцца і выступленні мясцовага хору, які спявае і беларускія песні. Арганізавана ў Доме культуры і некалькі клубаў. Самы масавы — клуб «Гаспадыня».

Выдатныя магчымасці для адпачынку дае жыхарам Беларускага і навакольная прырода. Пра аматараў палявання мы ўжо гаварылі. Не менш у пасёлку і рыбакоў. Далёка ім хадзіць не трэба. Адразу за дамамі цячэ рака Утроя, выйшаў з пад'езда — і закідвай вуду. Побач з пасёлкам створана штучнае возера. Сёлета ў яго запусцілі малькоў рыб, і праз гады два, як сказаў нам адзін дасведчаны чалавек, карпы і карасі будуць тут голы кручок хапаць.

Чаго яшчэ многа ў наваколлі, дык гэта журавін. Некалькі разоў сходзіш у лес і цэлую зіму будзеш піць самы каштоўны сок. Мы самі бачылі людзей, якія вярталіся з лесу, несучы па два вядры ягад. Кажуць, што многа сёлета было і грыбоў.

Так што ў дадатак да традыцыйна гарадскі[illegible] даброт жыхары пасёлк[illegible]еларускі маюць яшчэ і перавагі вясковага жыцця. Для дзяцей тут раздолле, асабліва летам: лес, рака, возера... І коні. Па ініцыятыве дырэктара саўгаса Дзмітрыя Андрэева ў гаспадарцы створана конна-спартыўная школа, дзе займаюцца хлопчыкі і дзяўчынкі розных узростаў. Пасля школьных заняткаў яны кожны вечар бягуць сюды, абавязкова прыхапіўшы дома лусту хлеба для свайго скакуна. Дзеці самі і кормяць, і даглядаюць коней. Заняткі праводзіць інструктар Аляксандр Кандакоў. Ідэя дырэктара саўгаса — зрабіць школу вядомай на ўсесаюзнай спартыўнай арэне. Сродкаў на стварэнне базы гаспадарка не шкадуе, хаця абыходзіцца гэта даволі дорага. Чыстапародны рысак каштуе не менш, чым добры вясковы дом. Саўгас набыў ужо каля дзесятка коней. Сёлета на іх пакупку выдаткавана яшчэ восемдзесят пяць тысяч рублёў. Дырэктар саўгаса сам ездзіць на аўкцыёны ў суседнюю Латвію выбіраць коней. Хто ведае, можа праз колькі год мы і пабачым некага з выхаванцаў саўгаснай конна-спартыўнай школы на буйных турнірах.

— Але спартыўныя дасягненні школы для нас не самамэта, — зазначае наконт гэтага Дзмітрый Андрэеў.— Важна, што нашы дзеці растуць здаровымі, дужымі, а галоўнае — з малых гадоў у чалавеку закладваюцца парасткі працавітасці. Мы думаем пра тых, хто прыйдзе на гэтую зямлю пасля нас...

**Ігар ГЕРМЯНЧУК.**



**НА ЗДЫМ[illegible]АХ:** хор Дома культуры саўгаса; дырэктар Дома культуры [illegible]цяна **РАДОМСКАЯ** прыехала ў «Беларускі» з Баранавіч тры [illegible]ды назад; дзевяцікласніца Святлана **ПЕТУШКОВА** на занятках у конна-спартыўнай школе.

Фота С. КРЫЦКАГА.





*ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН*

# «ІНТЭНСІФІКАЦЫЯ»—ПРАГРАМА ДЭПУТАЦКАЯ

**Выканаўчы камітэт Савета народных дэпутатаў Мінска распрацаваў комплексную пяцігадовую праграму «Інтэнсіфікацыя», якая пасля зацвярджэння яе на сесіі стала абавязковай для выканання ўсімі прадпрыемствамі і аб'яднаннямі горада. У выніку яе рэалізацыі за бягучую пяцігодку (1986—1990 гады) тут будзе вызвалена для больш кваліфікаванай работы каля 40 тысяч чалавек, з'эканомлена матэрыяльных і паліўна-энергетычных рэсурсаў больш чым на 200 мільёнаў рублёў. Вышэй дзяржаўных заданняў намечаны і прырост прамысловай вытворчасці.**

*— Адкуль жа бяруцца рэзервы для рэалізацыі праграмы? І ці не значыць гэта, што лічбы дзяржаўнага пяцігадовага задання гораду былі недастаткова прадуманы? — такія пытанні журналіст В. ХАДАСОЎСКІ задаў старшыні выканкома Мінскага гарадскога Савета У. МІХАСЁВУ.*

— Праграма «Інтэнсіфікацыя» — не процістаўленне дзяржаўнаму пяцігадоваму плану,— адразу ж удакладніў У. Міхасёў. — Складзены з улікам вялікай колькасці эканамічных паказчыкаў, гэты план вызначае толькі кантрольныя лічбы развіцця галін, з-за складанасці народнагаспадарчага комплексу ён не можа быць настолькі дэталёвым, каб прадугледзець усе мясцовыя асаблівасці і рэзервы. Выявіць іх у маштабах горада, а галоўнае — выкарыстаць якраз і вырашыў наш Савет. Па яго просьбе ўсе размешчаныя ў Мінску прадпрыемствы самі прадставілі прапановы па інтэнсіфікацыі сваёй работы. А мы аб'ядналі іх у адно цэлае, выключылі дубліраванне. Натуральна, будзем кантраляваць і ўвесь ход выканання гэтай праграмы.

*— Аднак для яе рэалізацыі адных арганізацыйных мер, напэўна, малавата. Патрэбны дадатковыя сродкі, абсталяванне...*

— Безумоўна. Возьмем, напрыклад, тэхнічнае пераасншчэнне прадпрыемстваў. Мы падлічылі: каб правесці яго ў поўнай меры, спатрэбяцца звыш 75 тысяч адзінак новага абсталявання. Дзяржаўныя капітальныя ўкладанні на развіццё эканамічнага патэнцыялу Мінска ўзрастаюць у параўнанні з мінулай пяцігодкай у 1,9 раза. Гэта, вядома, многа, але не настолькі, як нам хацелася б. Дык вось, праграма «Інтэнсіфікацыя» падказвае выйсце: дадатковыя сродкі можна атрымаць, разумна пераразмеркаваўшы капіталаўкладанні, зразумела, са згоды саміх прадпрыемстваў. Акрамя таго, частка новай тэхнікі будзе выраблена за кошт развіцця прадпрыемствамі ўласнага станкабудавання.

*— Адна з вострых праблем пяцігодкі — працоўныя рэсурсы, прыросту якіх у бліжэйшыя гады не чакаецца. Якое выйсце са становішча прапаноўвае праграма?*

— Больш рацыянальна выкарыстоўваць працоўныя рэсурсы, якія ёсць. У сувязі з гэтым мы робім стаўку на звядзенне да мінімуму долі ручной працы, на механізацыю і аўтаматызацыю вытворчасці. Цяпер на прадпрыемствах Мінска «працуе» больш за тысячу робатаў, а хутка іх будзе значна больш. Перад навуковымі і праектнымі арганізацыямі горада пастаўлена задача паскорыць распрацоўку аўтаматызаваных вытворчых комплексаў. Развіваем і сістэму перападрыхтоўкі рабочых кадраў.

*— Ці адбіваецца клопат Савета аб развіцці прамысловасці на ўзроўні жыцця мінчан?*

— Так, прычым па некалькіх напрамках. Першы — тэхнічнае ўдасканаленне вытворчасці, пераход на больш прагрэсіўныя формы арганізацыі працы і кваліфікацыйны рост работнікаў павышаюць прадукцыйнасць працы, дзякуючы чаму расце заработная плата. Другі вынікае з першага: рост прадукцыйнасці працы, натуральна, выклікае і рост вытворчасці, у тым ліку тавараў народнага спажывання.

І нарэшце, гарадскі Савет прадугледжвае і далей умацоўваць такую форму «зваротнай сувязі» з прамысловасцю, як кааперацыя сваіх сродкаў са сродкамі заводаў і вытворчых аб'яднанняў для мэт сацыяльнага развіцця. Напрыклад, за гады мінулай пяцігодкі за кошт гэтых крыніц у Мінску было пабудавана звыш двух мільёнаў квадратных метраў жылля, дзіцячых устаноў амаль на 11 тысяч месцаў. Прамысловасць перадала гораду са сваіх фондаў больш за 30 мільёнаў рублёў на развіццё камунальнай гаспадаркі і звыш 3 мільёнаў рублёў — на бытавое і медыцынскае абслугоўванне. З ростам эканамічных паказчыкаў нашай індустрыі гэтыя адлічэнні таксама павялічацца.

# КАПРЫЗ ЛЁСУ,

## АБО ЯК БЯЗБОЖНІК ШУРА БОЧКА СТАЎ АПОСТАЛЬСКІМ ВІЗІТАТАРАМ

ПАМФЛЕТ

Вячаслаў ЖАКЕЛЬ

ВАША ЭКСЦЭЛЕНЦЫЯ! Бянтэжуся і адчуваю сябе надта ж няёмка, вымавіўшы гэтыя высокія словы, бо ўяўляю, як мне ў вочы будзе рагатаць Аляксандр Баханчык — сябар вашага дзяцінства і юнацтва: «Шура Бочка — і на табе — эксцэленцыя!» Ды што Баханчык — уся Гарадзея, дзе вас ведаюць, як аблупленага, так і ляжа покатам, пачуўшы такую навіну. Але ж я не магу сабе дазволіць панібрацтва, як ваш былы хаўруснік Шура Баханчык ці любы гарадзеец,— сан апостальскага візітатара ўсё-такі абавязвае мяне звяртацца да вас як належыць. Вы цяпер на той апостальскай арбіце, можна сказаць, primus inter pares. Ва ўсякім разе на эмігранцкім небасхіле вы сапраўды прэтэндуеце на ролю першай асобы сярод роўных і падобных сабе.

Вось вы і дамагліся таго, што не давала вам спакою апошнія гады, пасля смерці біскупа Чэслава Сіповіча. Прызначаць ці не прызначаць? Пашанцуе ці не пашанцуе? Хто будзе за, а хто супраць, падставіць ножку? Грэшныя пытанні і зайздрослівыя думкі распіралі вашу цяпер недатыкальную свяцейшую галаву і цяжкім крыжам кладліся на ўзбунтаваную д'яблам душу. Хацелася б верыць, што такія спакусы не нашэптваў вам нячысцік яшчэ раней, тады, калі Сіповіч быў у самай сіле духу і моцы цялеснай і не збіраўся пакідаць гэты свет. Што вы не маглі дачакацца той радаснай для вас хвіліны, калі магутны хор грымне: «Requiem aeternam»... Не хачу такога дапусціць, эксцэленцыя, але ж душу задарма не прадаюць. Відаць, і вы свае трыццаць срэбранікаў атрымалі не за «так сабе».

Не прызначылі тады вас на месца нябожчыка Сіповіча: дарогу перабег ксёндз Уладзімір Тарасевіч, на якога і ўскладалі мітру біскупа. Уяўляю, якая гэта была для вас маральная аплявуха: свае свайго не прызналі! Навошта было тады мяняць праваслаўную веру (калі яна была?) і лезці ў каталіцкую скуру? Маючы ступень бакалаўра дакладных навук, чаго было ехаць у Рым вывучаць багаслоўе ў Грыгарыянскім універсітэце Ватыкана? Навошта напяліў на сябе чорную сутану? Горкім было пахмелле!

Зрэшты, што граха таіць, Тарасевіч, як і вы, такая ж пешка ў гульні палітычных скразнякоў, што віруюць і ў апостальскай сталіцы, і ў асяроддзі беларускай эміграцкай вярхушкі.

Але ўсё гэта цяпер у мінулым. Біскуп Уладзімір уцешыў-такі вас: пажыў надзіва мала і адышоў услед за сваім патронам Сіповічам у райскія палацы. І вось цяпер гэта ўтульнае і сытае месца займелі вы — айцец Аляксандр Надсон, апостальскі візітатар для католікаў-беларусаў, што жывуць на Захадзе, мітрапольны протаіерэй.

Але для колішняга сябрука Шуры — Аляксандра Баханчыка, які і цяпер жыве ў Гарадзеі, на той самай вуліцы паблізу чыгункі, што і да вайны, і ў тым жа старым доме, моцна збудаваным яшчэ бацькам, — для Шуры вы так і засталіся Аляксандрам Бочкам, яго цёзкам і равеснікам, з кім ён разам прайшоў нямала заблытаных сцежак, пакуль не расстаўся назаўсёды. Вось перада мною ліст Аляксандра Баханчыка, напісаны ў рэдакцыю пад уздзеяннем нейкіх асабістых пабуджэнняў. На яго я буду часам спасылацца: усё-такі гэта цікавы дакумент. Дарэчы, дзве акалічнасці прымусілі мяне ўзяцца за пяро і пісаць гэтыя радкі: пісьмо вашага колішняга сябра, з якім мяне пазнаёміла рэдакцыя «Голасу Радзімы» і новыя матэрыялы, што датычаць вашай персоны, на якія я натрапіў у архіве. У святле іх надзвычай каларытна прадстае ваша асоба. І я не магу, проста не маю маральнага права ўтаіць усё гэта ад людзей. І ад тых, хто памятае, якім вы былі тут, і ад тых, над якімі вы пастаўлены там.

**З ліста А. Баханчыка:** «З радасцю даведаўся я з нашай прэсы, што ты, Шура, жывы і здаровы, займаешся шматкарыснымі справамі, а часам і меней карыснымі. Бо мне цяжка нават уявіць сабе, што ты — свяшчэннаслужыцель. Святціла матэматыкі, фізікі, ну хаця б спецыяліст у галіне мовазнаўства — вось, як мне здавалася, тваё прызванне. А свяшчэннаслужыцель — гэта нейкі капрыз лёсу...»

Што сказаў бы бацька вашай эксцэленцыі, Антон Бочка, настаўнік гімназіі ў Гарадзеі польскіх часоў, які ў нядзелю, калі веруючыя ішлі ў царкву ці касцёл, дэманстратыўна пілаваў і калоў дровы ў сябе на панадворку? А маці, інтэлігентны, начытаны і для свайго часу адукаваны чалавек? За ўсё жыццё яна была, мусіць, усяго тры разы ў царкве: калі яе хрысцілі, калі брала шлюб і калі хавалі.

**З ліста А. Бах[illegible]ка:** «Так здарылася, што ў [illegible]5 ці 1936 годзе, дакладна не скажу, свяшчэннаслужыцель Ясінскі прапанаваў нам з Шурам прыслужваць яму падчас богаслужэння. Мы прыкінулі і згадзіліся. Але Шура быў назірал[illegible]ым і хутка стаў звяртаць м[illegible] ўвагу на тое, што поп сам [illegible]азы і евангелле не цалуе, а толькі датыкаецца да іх носам ці вусамі. А вясковыя ж бабкі цалавалі, можна сказаць, узасос. І Шура хутка гэтую справу кінуў».

Гэта што датычыцца вашых рэлігійных перакананняў, эксцэленцыя. Разумею: ваша паства будзе пакрыўджана і разгневана, калі даведаецца, які двулікі Янус распасцірае над імі далоні боскай апекі. Але не будзем крывіць душой. Amicus Plato, sed magis amica veritas. Ці не гэтаму вас вучылі ў «Русікуме»? Дык будзем жа шанаваць ісціну, якая б прыкрая і непажаданая яна ні была. І потым, што вы губляеце? Не вы першы, не вы апошні: прыклад блудніцы Марыі Магдалены хай умацуе ваш дух, эксцэленцыя.

Мне, уласна, дык мала абыходзіць ваша веравызнанне, хаця шчыра шкадую тых акалпачаных беларусаў, што слухаюць вашы павучанні і настаўленні, для якіх вы асоба амаль што бязгрэшная, а ўсё, што злятае з вашых вуснаў, для іх — вышэйшая ісціна. O sancta simplicitas! О, гэта людская наіўнасць і прастата! Яны не бачаць выразных плямаў на вашых рызах, эксцэленцыя. Дзе ўжо ім заўважыць каламуць на дне вашай душы!

Ну, дапускаю, што веру (калі яна была) можна змяніць, як цыган кабылу, дапускаю, што вы, выхадзец з сям'і, можна сказаць, атэістаў, знайшлі свайго бога. І ваша сумленне стала спакойным... Скажыце, эксцэленцыя, калі вы заклікаеце вашых любіць і шанаваць бацьку свайго і маці сваю, перад вамі не паўстае вобраз вашай маці, якую вы пакінулі ў горы і адзіноце на старасці год, на покліч якой не азваліся ні адзіным словам? Калі я спытаў у Аляксандра Баханчыка, чаму вы пайшлі на Захад, а не вярнуліся разам з сябрам на Радзіму, ён адказаў коратка і цвёрда: «Шура не любіў сваю маці...» Пачуць такія словы пра чалавека, які пакліканы ахвяраваць сабой дзеля людзей, — гэта страшна, ваша эксцэленцыя...

Там, у Вагезах пад Бельфарам, на фронце ў 1944 годзе, дзе апынуліся два 18-гадовыя хлопцы з Гарадзеі, трое сутак вы ўгаворвалі вашага сябра ісці за ім на Захад, перайсці да саюзнікаў. І ваш сябар трое сутак адгаворваў вас ад гэтай здрадлівай задумы, клікаў вярнуцца дадому, бо там маці, там свая зямля. У гітлераўскай Германіі, якая дажывала свае дні, вашы шляхі і разышліся назаўсёды. Вы спужаліся, што прыйдзецца адказваць за актыўную дзейнасць у Саюзе беларускай моладзі, скажам прама — прафашысцкай арганізацыі, адказваць за тое, што добраахвотна ўступілі ў школу афіцэраў Беларускай краёвай абароны. Будзем справядлівымі: вы не паспелі яшчэ ўзяць у рукі зброю на тэрыторыі Беларусі, каб «змагацца з бальшавіцкім бандытызмам» (гэта — з вашай рукой напісанай анкеты), але маральна вы былі падрыхтаваны да такога злачынства. Таму яшчэ ў Мінску вы ўсё ўзважылі і рашылі: немцы вывезуць БКА ў Германію, а там трэба шукаць нагоды перайсці да англічан ці амерыканцаў.

Цяпер у вас, усіх тых, хто ў 1944 годзе бег без аглядкі на збавенны Захад, гэта называецца «гістарычнымі падзеямі на Беларусі, якія змусілі шмат каго з беларусаў выбраць эвакуацыю ў чужыну». І вядома ж, не дзеля ратавання ўласнай здрадніцкай скуры, а дзеля высокай палітычнай мэты: каб адтуль, з надзейнага, бяспечнага і ўтульнага Захаду, «клапаціцца» пра лёс пакінутай Бацькаўшчыны. Але каму дарагія былі маці і Радзіма, тыя засталіся, знайшлі ў сабе мужнасць паглядзець людзям у вочы, адбыць пакаранне за сваю віну (не злачынства, якое даравань нельга, а толькі віну!) перад народам і з народам застацца. Вы свядома выбралі іншы шлях, бо не было ў вас сэрца да маці, а значыць, — не было і Радзімы. А можа перабольшанае пачуццё страху выцесніла ў вас усе астатнія пачуцці? Зрэшты, вам нічога сур'ёзнага не пагражала, так што не варта строіць з сябе патэнцыяльнага мучаніка. На ролю Хрыста-збавіцеля вы, эксцэленцыя, зусім не падыходзіце.

Ваш сябар, Аляксандр Баханчык, калі расказаў мне пра сваё жыццё, вельмі непакоіўся, каб вы не падумалі, што ён быў асуджаны і адбываў тут пакаранне, што ён у чымсьці прайграў, не паслухаўшы вашых угавораў і не пайшоўшы за вамі. Ён нават паказаў мне пасведчанне падрыўніка на шахце ў Варкуце: «Асуджаныя не могуць быць падрыўнікамі, ім такой справы не даваяраюць, а я быў, як бачыце». Гэта значыць, што некалькі год Баханчык жыў на Поўначы, куды яго прывезлі ў эшалоне проста з Германіі. Усё-такі ён быў узяты ў палон у форме салдата варожай нам арміі, у якую ўступіў па сваёй волі. Жыў і працаваў ваш сябар як звычайны рабочы. Потым скончыў тэхнікум, а калі захацеў, пайшоў вучыцца ў інстытут. Займаў кіруючыя інжынерныя пасады. Пакуль маці была пры здароўі, штогод наведваў яе і дапамагаў, а потым, як занемагла, вярнуўся ў бацькоўскі дом, каб аблягчыць ёй старасць. Цяпер атрымлівае высокую пенсію і жыве, як усе людзі.

**З ліста А. Баханчыка:** «Сваю маці я пахаваў у 1976 годзе і паставіў ёй помнік. Я быў ёй апорай і дапамогай да самай яе смерці. А тваю маці, Ганну Іванаўну, пахавалі ў 1979 годзе чужыя людзі, і помнік ёй паставілі чужыя людзі. Твая маці так нічога пра цябе і не даведалася. Усе мае намаганні знайсці цябе, разбудзіць тваё сумленне, прымусіць успомніць і падбаць пра жанчыну, якая дала табе жыццё, для якой ты быў адзіным вокам у свет, не мелі поспеху... Маці твая памерла з тваёй фатаграфіяй у руках...»

Ганна Іванаўна не раз звярталася да Аляксандра Баханчыка, каб дапамог знайсці ёй сына. Па-першае, вы ж усё-такі былі сябрамі. А па-другое, зводныя браты Баханчыка жылі ў Англіі. Праз іх вам перадавалі немы крык вашай [illegible]і — адгукнуцца! Вы бая[illegible] прамаўчалі, як той тхор, схаваўшыся ў ледзяную нару абыякавасці да самага блізкага вам чалавека.

Сябар вашага дзяцінства Эдвард Бойзерт таксама пасля вайны апынуўся ў Англіі, а маці з[illegible]ася тут, у Гарадзеі. Ён знай[illegible], магчымасць адведаць яе неаднойчы, а калі маці памерла, пахаваць яе, як таго патрабуе сыноўскі абавязак. У вас, эксцэленцыя, не знайшлося добрай волі, каб уцешыць сваю маці хоць адзіным радком ліста. Ужо гэта вашай свяцейшай асобе нічым не пагражала! Не да таго было — вы дбалі, каб «забяспечыць прыхаджан здаровым рэлігійным і маральным кіраўніцтвам». Які вы міласэрны да чужых, эксцэленцыя!..

Не думаю, каб дакор друга абудзіў у вас спозненыя пачуцці пашаны да маці і скруху блуднага сына. Але вам, духоўнай асобе, што рупіцца пра маральную чысціню душ людскіх, не грэх заглянуць і ў сваю душу. Тым больш, што маці свае вы многім абавязаны. Гэта дзякуючы ёй, Ганне Іванаўне Давыдавай, рускай настаўніцы з-пад Пецярбурга, якая стала жонкай вашага бацькі, вы найперш навучыліся чытаць і пісаць на сваёй роднай мове — рускай. Яна ўвяла вас у шырокі свет рускай класічнай літаратуры. Вас акружалі Лермантаў, Талстой, Гоголь, Салтыкоў-Шчадрын, Дастаеўскі — уся серыя дарэвалюцыйнай «Народнай бібліятэкі».

Дарэчы, чаму Надсон — гэта хваравітая, надламаная постаць, якая займае такое нязначнае месца ў рускай літаратуры, стаў вашым духоўным настаўнікам? І чаму менавіта такі чалавек, як вы, напалову рускі па паходжанні, напалову арыец па духу, іграе ролю нацыянальнага асветніка і каталіцкага душпастыра сярод беларускай эміграцыі? У вас жа, у беларускім нацыяналістычным асяроддзі, як і ў нацыянал-сацыялістаў, чысціня расы вышэй за ўсё. Даруйце за дылетанцкае пытанне: кадравы крызіс у Беларускай каталіцкай місіі ці што?

Дзіўная справа, ваша эксцэленцыя! Ідэалагічнае лідэрства сярод «нацыянальна свядомых» замежных беларусаў пераходзіць у рукі абы каго, толькі не саміх беларусаў. Узяць для прыкладу тую ж галасістую «беларускую секцыю» радыё «Свабода». Пакажыце мне там хоць аднаго славяніна, не кажучы ўжо пра беларуса? А ўсе ж так рупяцца пра беларусаў! Ды каб жа адно пра закардонных, а то больш пра нас, бедных, пра наш народ, пра наш парадак і лад, нашу нацыянальную культуру.

Вось і вы, эксцэленцыя, выходзіць, таксама з варагаў. Ну, які вы католік, цяпер вядома. А вось што вы за «нацыянальна свядомы» беларус? Да 1939 года вы і кніжкі беларускай, можна сказаць, у руках не трымалі. Вы нават і ўяўлення не мелі пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Кузьму Чорнага. Вы больш сябравалі з Лермантавым і Пушкіным. Купалу, Коласа і Чорнага вы ўбачылі толькі пасля вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй, якую, між іншым, горача віталі вашы бацькі. Гэта вельмі добра, што Савецкая ўлада дала вам магчымасць пазнаць карыфеяў культуры таго народа, сярод якога вы нарадзіліся і ўзгадаваліся. Блага іншае. Мы ставім Пушкіна і Купалу на адной паліцы, побач, бо свой духоўны свет не можам уявіць у адрыве ад культуры вялікага народа, з якім нас лучыць сама гісторыя. Вы ж ставіце іх на розных паліцах: Купала (і то не ўвесь) — гэта наш, а Пушкін не патрэбен, бо ён «з Маскоўшчыны».

Калі ж пачалося ваша перараджэнне, эксцэленцыя? Ці можа зменлівасць светапогляду, ідэалаў, як і прозвішча, — уласцівасць вашай натуры? Аляксандр Бочка, расказваюць, яшчэ хаваў ад фашыстаў знойдзеныя ў разгромленай школе ў 1941 годзе кнігі У. І. Леніна на польскай мове, збіраючыся пасля вайны іх прачытаць. Курсант «ландэсфюрэршуле» ў Альберціне пад Слонімам, «звязовы СБМ» Алекс Бочка (Alex Botchka) у 1944 годзе — гэта ўжо зусім іншы чалавек. Анкета, якая ляжыць перада мной, напісана яго рукой, ваша эксцэленцыя. Чытаючы яе, можна зрабіць выснаў, што вас выхоўвала не руская жанчына, а ваш штамфюрэр Вейлер. Відаць, вы і сапраўды не любілі сваю маці, бо зерне, якое яна пасеяла ў вашу душу, пасохла, не даўшы ўсходаў, затое атрутнае семя нацыянал-фашызму расцвіло буйным чартапалохам.

**З анкеты звязовага СБМ А. Бочкі:** «7. Мы ідзём разам з Нямеччынай, бо:

1) Нямеччына з'яўляецца адзінай Краінай, якая можа нас абараніць ад бальшавіцкай навалы;

2) Нямеччына дала нам магчымасць развівацца нацыянальна, культурна, эканамічна і ня толькі не імкнецца да нашага заніжэння, як напрыклад, бальшавікі ці Ангельшчына, але ва ўсім нам дапамагае».

Алекс Бочка быў здольным адэптам фюрэра і хутка ўцяміў, што лашчыць вуха і вока штамфюрэра Вейлера. Так, вы, нягледзячы на мора слёз і крыві, у якім захлыналася Беларусь, не хацелі бачыць таго, што прынёс фашызм нашай краіне і нашаму народу. Відаць, так вашай асобе было выгадней. Дзеля гэтага вы гатовы былі ісці «разам з Нямеччынай» хоць да чорта на рогі, дзеля гэтага і сталі курсантам БКА ў Мінску, а калі збеглі адсюль, там, на Захадзе, рыхтавалі сябе не да духоўнай кар'еры ў школе фашысцкай разведкі. На руках вашых няма крыві народа свайго, і гэта вам нельга паставіць у віну. Але на тэрыторыі Германіі вы добраахвотна надзелі фашысцкі мундзір і разам з іншымі гадаванцамі Вейля вас кінулі супраць саюзных войск у Францыю. Што вы там рабілі, аднаму ўсявышняму вядома, бо іншых сведкаў цяпер няма. Мяркую, што нічога пажаданага богу і карыснага людзям. Гэтую заечую пятлю заблытанай сцежкі ва-

шага «пабожнага жыцця» вам цяпер успамінаць няма вялікай выгады. Для такой асобы, як вы, цяпер патрэбна іншая, больш дастойная біяграфія. Відаць, таму Гай дэ Пікарда, гэты ваш асабісты біёграф, складаючы панегірык у гонар вашага юбілею, так старанна абмінаў небяспечныя рыфы вашай біяграфіі:

**З артыкула Г. Пікарда:** «Сваю асвету айцец Надсон атрымаў у Беларусі. У час другой сусветнай вайны служыў у войску Італіі, дэмабілізаваўшыся ў Вялікабрытаніі ў 1946 годзе...»

Бачыце, эксцэленцыя, як усё прыстойна ў вас атрымліваецца, калі па-пісанаму. Разумею цяпер, жывучы ў той самай Англіі, проста няёмка прыгадваць, што некалі не толькі беспадстаўна абвінавачваў у «заніжэнні» Беларусі і беларусаў, але фактычна і выступаў супраць яе са зброяй у руках. Недарма ж вы пісалі ў анкеце, што вас лучыць з гітлераўцамі «змаганне супраць агульнага ворага». А ворагам Германіі тады, як вядома, была і Вялікабрытанія, у якой вы сябе сёння адчуваеце ўтульна і бяспечна. Пераходзячы на той бок, да «ворагаў Германіі», ваша кампанія пераканаўча разыграла «бой» са сваімі ж учарашнімі «абаронцамі», выпусціўшы па нямецкіх войсках некалькі залпаў. Гэта павінна было рэабілітаваць вас у вачах саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі.

Выбачайце, эксцэленцыя, за надакучлівыя вашай асобе пытанні, але мне карціць дазнацца, кім вы лічыце сябе цяпер? Рускім? Беларусам? Немцам? Тады, у той анкеце, вы давodзілі, што ў вас з немцамі адзінае паходжанне — арыйскае. А сёння — кельтскае? Ці амерыканскае?

Цяпер у вашых руках крыж — знак пакоры і паслушэнства... Вось мне зноў жа карціць спытацца ў вас: чаму тыя беларусы, якія ў час вайны трымалі ў руках вінтоўку і накіроўвалі яе супраць сваіх жа, якія выдавалі фашыстам на пакуты і смерць сваіх жа, па-вашаму, бліжніх, раптам за кардонам зрабіліся такімі набожнымі, што аж млосна становіцца ад іх модлаў і чалабіцця? Што гэта — страх перад богам ці перад людзьмі, закатаваныя душы якіх не даюць ім спакою па начах? Чаму раптам былыя карнікі кінуліся будаваць цэрквы ды касцёлы? Сталі свяшчэннаслужыцелямі? Можа таму, што за чорнай сутанай ці расай лепш схаваць сваё мінулае? Сваю асатанелую ад злачынстваў перад народам душу? І чым большы мярзотнік, зачарсцвелы злачынец, тым больш фанатычны веравызнаўца, пабожны прыхаджанін! Нездарма кажуць, што найбольшымі ханжамі становяцца самыя распусныя блуднікі. Прыгадайце хаця б вашага калегу па «Русікуму» Уладзіміра Рыжы-Рыскага, гэтага агента СД з Латыголі, па даносу якога загінула ў вайну столькі яго аднавяскоўцаў. Як трапіў на Захад — так і апостальскі візітатар. А колькі такіх, як ён, кінулася ў свяшчэннаслужыцелі, пазалазіла ў сутаны, быццам за браню схавалася, і цяпер з усіх амвонаў заклікаюць «маліцца за свой народ», быццам ім так баліць, што будзе з народам. Што гэта, здзек ці блюзнерства?

Вось і вы, эксцэленцыя, узнімаеце крыж перад натоўпам у Айленд-парку, распасціраеце далоні над помнікам «беларускім гэроям» на беларускіх могілках у Нью-Брансуіку.

Хто ж яны, гэтыя «гэроі»? Чым праславілі свой народ? Што карыснага зрабілі для нашай бацькаўшчыны Беларусі?

**З газеты «Вашынгтон пост» ад 26 чэрвеня 1982 года:** «Пад чорным надмагільным помнікам у сем футаў вышынёй на беларускіх могілках знаходзіцца магіла Радаслава Астроўскага. Гэты Астроўскі быў «прэзідэнтам» т. зв. дзяржавы «Белая Рутэнія», зацверджанай Адольфам Гітлерам у хуткім часе пасля нападу вермахта на Савецкі Саюз у 1941 годзе. За час акупацыі больш 750 тысяч грамадзян — цывільных жыхароў Беларусі — былі забіты нацысцкімі «гаспадарамі» і іх марыянетачнай дапаможнай паліцыяй...

Менш чым у шасці кварталах ад могілкаў знаходзіцца беларуская праваслаўная царква святой Ефрасінні, якая адносіцца да могілак і пабудавана тут дзесяць гадоў назад. Гэта, несумненна, дзіўная царква. Сярод яе прыхаджан няма ніводнага старога, даваеннага эмігранта. Старых эмігрантаў сюды не пускаюць. На вяршыні пагорка, прама за царквой, устаноўлены так званы манумент «беларускім ахвярам вайны». Па-руску (па-беларуску. — **заўвага аўтара**) і па-англійску на ім напісана: «Слава змагарам за свабоду і незалежнасць Беларусі». Іронія гэтага надпісу ў тым, што тыя, пра каго тут ідзе гаворка, ваявалі якраз за нацыстаў. І манумент літаральна пастаўлены ў памяць аб памёршых членах СС. Ён нават увенчаны рускім крыжам у жалезнай акальцоўцы. А гэта якраз і ёсць эмблема батальёна СС».

Нават у Злучаных Штатах Амерыкі цяпер, пасля кнігі Лофтуса «Сакрэт «Беларусі», амаль усе ведаюць, што гэта за месца і каму помнік тут стаіць. Пад ім парахнеюць косці паліцаяў, карнікаў, здраднікаў беларускага народа. А вы адпраўляеце па іх «палявую багаслужбу», узносіце да бога малітвы за тых, каго выкляў народ. Вас акаляюць яшчэ жывыя злачынцы і здраднікі, якія дыхаюць нянавісцю да свайго народа. Вось яны перад вамі, стаяць пад амерыканскім і беларускім нацыяналістычным сцягам. Стаяць ужо нягеглыя, знямоглыя ад старас[illegible] але ў душы гатовыя яшч[illegible]іць і вешаць. Яшчэ ўчора [illegible]ны сеялі смерць і гора на Беларусі, а цяпер узгадоўваюць нянавісць да нашай краіны ў прапагандысцкіх і ідэалагічных запаведніках Злучаных Штатаў Амерыкі.

І вы ў гэтым змя[illegible] балоце, эксцэленцыя. Кампанія, шчыра кажучы, як у тым анекдоце... Іх вы благаслаўляеце і заклікаеце «маліцца за сваіх бліжніх, за ўсіх пакрыўджаных, ды асабліва за тых, хто не мае магчымасці маліцца свабодна на бацькаўшчыне».

Дык якому ж богу моліцеся, эксцэленцыя?

Ваша маці больш за ўсё перажывала, каб вы не зрабілі нічога благога сваёй Радзіме, не шкодзілі ёй, не пакрыўдзілі свой народ ні словам, ні ўчынкам. З гэтымі трывожнымі думкамі яна і сышла ў магілу. Вы зракліся маці, зракліся і Радзімы.

**З кніжкі Б. Курагі-Скрагі «Восем год у нацыяналістычным балоце»:** «Добра памятаю гэтага высокага маладога, заўсёды неахайна апранутага мужчыну ў акулярах, з мядзведжай паходкай. Ён заўсёды рабіў так, як яму загадвалі, бо сваіх цвёрдых перакананняў у яго ніколі не было. Прыстасаванец...»

Пазнаяце сябе, эксцэленцыя? Гэтыя радкі — пра вас. Прыстасаванец. Курага-Скрага, якога вы павінны памятаць, бо ён пражыў побач з вамі ў Англіі восем гадоў, думаю, лепш за мяне ведае вашу персону. А мне да яго слоў, бадай што, няма чаго дадаць. Праўда, тады вы былі значна маладзейшы і яшчэ з не задаволенымі амбіцыямі. Цяпер у вас ёсць тое, аб чым мроілася. Вам вельмі да твару колер новай шкуры. Яна так пасуе да таго асяроддзя, якому вы служыце душой і целам. Вядома ж, у вас ёсць зайздроснікі: ваш талент пераўвасаблення не дае ім спакою. Што датычыцца таленту, то ён у вас сапраўды ёсць. Калі б стаць муэдзінам, было б больш выйгрышна, вы, не задумваючыся, скінулі б шкуру праваевернага каталіка і з хуткасцю пеўня ўзляцелі б на мінарэт.

## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»




Летась у «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы» была выпушчана кніга кандыдата філасофскіх навук Вячаслава Шалькевіча «Кастусь Каліноўскі». Імя беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, паэта, публіцыста, мысліцеля, таленавітага кіраўніка паўстання 1863—1864 гадоў у Беларусі і Літве навечна ўпісана ў гісторыю нашай Радзімы, карыстаецца ўсеагульнай павагай і любоўю. Ідэйная спадчына Каліноўскага ўважліва і ўсебакова вывучаецца ў нашай краіне. За гады Савецкай улады вучонымі напісана мноства навуковых і навукова-папулярных кніг, у якіх асвятляюцца розныя бакі рэвалюцыйнай дзейнасці і светапогляду Каліноўскага.

Вячаслаў Шалькевіч у сваёй кніжцы, напісанай у папулярнай форме, на багатым фактычным матэрыяле, значная частка якога публікуецца ўпершыню, прасочвае духоўнае развіццё маладога Каліноўскага, разглядае асноўныя этапы станаўлення яго рэвалюцыйна-дэмакратычнага светапогляду, раскрывае той ідэал справядлівага грамадскага ладу, які складваўся ў яго разам з рэвалюцыйна-дэмакратычнымі перакананнямі. Раней гэтыя пытанні менш, чым іншыя, асвятляліся ў літаратуры, прысвечанай Кастусю Каліноўскаму.

У сваёй рабоце Вячаслаў Шалькевіч пераканаўча даказаў неабгрунтаванасць спекулятыўных фальсіфікацый беларускіх буржуазных нацыяналістаў вакол імя Кастуся Каліноўскага. «Паразітуючы на яго выказваннях, — адзначае аўтар, — накіраваных супраць рускага самадзяржаўя і цара, яны спрабавалі выкарыстаць іх, каб паказаць рэвалюцыянера гэткім засцянковым русафобам. Гэтыя беспадстаўныя спробы прадставіць Каліноўскага адным з роданачальнікаў беларускага нацыяналізму працягваюцца да нашых дзён».

У сапраўднасці, Каліноўскі быў паслядоўнікам Герцэна, Чарнышэўскага, Дабралюбава і прытрымліваўся рэвалюцыйна-дэмакратычных поглядаў у нацыянальным пытанні. На падставе шматлікіх фактаў аўтар паказвае, што, змагаючыся за свабоднае развіццё народных мас Беларусі, Кастусь Каліноўскі быў палымяным абаронцам рэвалюцыйнага саюза ўсіх прыгнечаных, гарачым прыхільнікам ідэі дружбы народаў.

Адразу ж пасля выхаду ў свет кніга В. Шалькевіча прыцягнула шырокую ўвагу чытачоў. Рэдакцыя атрымала мноства водгукаў, у якіх гаварылася, што кніга была сустрэта з вялікай цікавасцю і дала магчымасць суайчыннікам пазнаёміцца з невядомымі раней бакамі жыцця і шматграннай дзейнасці выдатнага беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата.

Але суайчыннікі выказвалі жаль, што гэтую цікавую брашуру з-за няведання беларускай мовы не змогуць прачытаць іх дзеці і ўнукі.

Прымаючы пад ўвагу шматлікія просьбы чытачоў, сёлета брашура В. Шалькевіча «Кастусь Каліноўскі» перакладзена на англійскую мову і выпушчана ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы».

Гэта дасць магчымасць пазнаёміцца з кнігай значна большай колькасці чытачоў за мяжой, якія цікавяцца жыццём і дзейнасцю нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага.

**Рыгор ФАМЕНКА.**



**Такія вось сустрэчы з моладдзю ў Аляксея САКАЛОВА бываюць часта, бадай што, кожны тыдзень: у школах і на заводах, у інстытутах і музеях... Маладым людзям цікава пагаварыць з чалавекам, які ўдзельнічаў у дзвюх рэвалюцыях — лютаўскай і Вялікай Кастрычніцкай, змагаўся за маладую рэспубліку Саветаў у гады грамадзянскай вайны, адстойваў свабоду і незалежнасць нашай краіны на франтах Вялікай Айчыннай... Гэтая сустрэча ветэрана з навучэнцамі аднаго з мінскіх прафесійна - тэхнічных вучылішчаў была наладжана ў Доме-музеі I з'езда РСДРП. Дарэчы, А. Сакалоў стаў членам партыі бальшавікоў у ліпені 1917 года.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

## СУРОВЫЕ ИСПЫТАНИЯ ГОРНОЙ ТЕХНИКИ

В Южной Якутии, где в зоне Байкало-Амурской железнодорожной магистрали формируется территориально-производственный комплекс, впервые в условиях сурового, резко континентального климата создано столь крупное горное предприятие, как угольный разрез «Нерюнгринский». В 1985 году в разрезе вывезено в отвалы 80 миллионов кубометров породы и добыто открытым способом около 12 миллионов тонн угля. В 1986 году эти объемы возрастут.

Таких масштабов горных работ в зоне вечной мерзлоты — среднегодовая температура здесь почти минус 10 градусов С, продолжительность холодов — 215 дней с морозами порою до 63 градусов — не знает ни один разрез в мире. И поэтому, естественно, здесь потребовалось особое оборудование большой единичной мощности.

С 1977 года в Южную Якутию были доставлены 10 гидравлических экскаваторов модели 204М фирмы «Марион» (сейчас — отделение американской компании «Дрессер»), изготовленных на заводах «Сумитомо» в Японии. Это были первые в мире образцы такой модели, предназначенные для работы в условиях Севера при температурах наружного воздуха до минус 50 градусов С.

Однако эти экскаваторы, как оказалось, очень трудно приспосабливались к условиям Южной Якутии. В зимнее время, в частности, резко учащались отказы, особенно в гидросистеме, ходовой части, ковше.

Подобная участь постигла и 180-тонные автосамосвалы М-200 фирмы «Юнит-Риг» (США): по ряду узлов и систем потребовались конструктивные изменения, замена материалов, улучшение технологии на заводе-изготовителе. При этом эффективно использовались и рекомендации Якутского института физико-технических проблем Севера, имеющего большой опыт приспособления машин к суровым местным условиям.

Более надежно, чем экскаваторы и автосамосвалы, работали на разрезе «Нерюнгринский» импортные буровые станки, бульдозеры японской фирмы «Комацу».

С 1980 года в Южную Якутию поступают, начиная с опытного образца, отечественные карьерные экскаваторы ЭКГ-20 производства Уральского машиностроительного завода. Емкость ковша — 20 кубометров. Сейчас в разрезе «Нерюнгринский» находится уже 13 таких машин. В процессе эксплуатации они проходят доводку, модернизацию. Как показала практика, электромеханические экскаваторы типа ЭКГ-20 лучше подходят для работы на Севере, чем импортные гидравлические. Обнадеживающие результаты показывают и первые образцы отечественного 180-тонного автосамосвала Белорусского автомобильного завода. С конца 1983 года в Нерюнгри поступило уже 50 таких машин.

В последующие годы в связи с дальнейшим ростом объемов горных работ разрез «Нерюнгринский» будет пополняться отечественными экскаваторами, автосамосвалами, буровыми станками, которые заменят здесь импортную технику.

**Юрий ЗАХАРОВ,**
**технический директор объединения «Якутуголь».**
(АПН).

МІХАІЛ ЛАМАНОСАЎ: ВУЧОНЫ, ПАЭТ, АСВЕТНІК

# ВЯЛІКІ СЫН РАСІІ



**19 лістапада 1986 года споўнілася 275 год з дня нараджэння вялікага рускага вучонага-энцыклапедыста Міхаіла ЛАМАНОСАВА. Генеральная канферэнцыя ЮНЕСКО заклікала міжнародную грамадскасць адзначыць юбілей Ламаносава як аднаго з заснавальнікаў сучаснага прыродазнаўства.**

Ламаносаў — гордасць рускай навукі. Дыяпазон яго навуковых інтарэсаў быў надзвычай шырокі, распаўсюджваючыся на ўсе галіны прыродазнаўства (хімія, фізіка, геалогія, астраномія і інш.), на гарнарудную справу і металургію, геаграфію і эканоміку, гісторыю і мовазнаўства, паэзію і літаратуру, на дэмаграфічную палітыку і пытанні аховы народнага здароўя. У кожнай з гэтых сфер ён праявіў сябе наватарам і першапраходцам.

Найбуйнейшае навуковае дасягненне М. Ламаносава — адкрыццё закона захавання рэчыва і энергіі. Гэты закон быў сфармуліраваны ім у пісьме да Леанарда Эйлера, датаваным 5 ліпеня 1748 года: «Усе змяненні, якія сустракаюцца ў прыродзе, адбываюцца так, што калі да чаго-небудзь што-небудзь прыбавілася, то гэта аднімаецца ў чагосьці іншага... Гэта ўсеагульны закон прыроды». Ламаносаў — аўтар тэорыі цеплаты, асноў атамна-малекулярнай тэорыі, кінетычнай тэорыі газаў, вучэння аб прыродзе электрычных з'яў, тэорыі колераў. Яму належаць адкрыцці і ў галіне астраноміі. Грунтуючыся на сваіх назіраннях і вылічэннях, ён упершыню даказаў існаванне атмасферы вакол Венеры.

Вялікае месца ў творчасці Ламаносава займалі працы па філалогіі. Сярод іх папулярнасцю карысталася выдадзеная ў 1748 годзе «Рыторыка» — падручнік красамоўства, які многія гады быў настольнай кнігай адукаваных людзей Расіі. Ён лёг у аснову ўсіх наступных рускіх аналагічных дапаможнікаў аж да 30-х гадоў XIX стагоддзя. Падзеяй у культурным жыцці краіны стала «Расійская граматыка» Ламаносава. У прадмове ён, характарызуючы рускую мову, піша, што многія іншаземцы знайшлі б у ёй пышнасць іспанскай, жывасць французскай, моц нямецкай, пяшчоту італьянскай, звыш таго багацце і моцную ў выказваннях сціснасць грэчаскай і лацінскай моў.

Многае ім зроблена ў сферы вышэйшай адукацыі і асветы. У 1755 годзе па яго ініцыятыве ствараецца Маскоўскі універсітэт, які стаў цэнтрам перадавой навуковай і дэмакратычнай думкі Расіі XVIII стагоддзя. Ламаносаў быў прапагандыстам і папулярызатарам навукі. Ён не толькі выдаваў свае працы, не толькі перакладаў на рускую мову творы замежных вучоных, але і пісаў на навуковыя тэмы вершы (напрыклад «Слова пра з'явы паветраныя», «Пісьмо аб карысці шкла», вершаваны пераклад радкоў з паэмы Лукрэцыя «Аб прыродзе рэчаў» і інш.). Дарэчы, яго можна лічыць адным з заснавальнікаў сучаснай навукова-папулярнай журналістыкі. Сама за сябе гаворыць назва адной з яго работ: «Разважанні аб абавязках журналістаў пры складанні імі твораў, прызначаных для падтрымання свабоды філасофіі».

На Захадзе работы Ламаносава былі вядомыя толькі ў вузкіх колах спецыялістаў, перш за ўсё фізікаў і хімікаў. І тыя, хто яго ведаў, аддавалі яму належнае. Вось даслоўны водгук Леанарда Эйлера (які тады ўжо пакінуў Расію і быў членам Берлінскай акадэміі навук) пра творчасць Ламаносава: «Сочинения господина Ломоносова... не токмо хороши, но и превосходны, ибо он изъясняет физические и химические материи самые нужные и трудные, кои совсем неизвестны и невозможны были к истолкованию самым остроумным ученым людям, с таким основательством, что я совсем уверен о точности его доказательств... он одарован самым счастливым остроумием для объяснения явлений физических и химических».

Акадэмік П. Капіца аднойчы трапна заўважыў: «... Ламаносаву пашанцавала — ён своечасова трапіў у Пецярбург, каб стаць адным з першых рускіх вучоных у Акадэміі навук. Але, вядома, яшчэ больш пашанцавала Акадэміі навук, што першым рускім вучоным стаў Ламаносаў».

Чаму, можа ў чытача ўзнікнуць пытанне, Ламаносаў стаў першым рускім вучоным? Ды таму, што ў тыя часы ўсе акадэмікі Пецярбургскай акадэміі навук былі іншаземцамі. І ўвогуле, жыццёвы шлях Ламаносава — унікальная з'ява для ўмоў царскай Расіі. Сын непісьменнага рыбака з далёкай прыпалярнай ускраіны Расіі — Архангельскай губерні — у 19 год збег з дому ў Маскву і змог паступіць вучыцца ў Славяна-грэка-лацінскую акадэмію (якая адпавядала прыкладна ўзроўню сярэдняй школы), толькі выдаўшы сябе за сына двараніна — для ўсіх астатніх саслоўяў прыём туды быў закрыты. Праз некалькі год падман адкрыўся, але к таму часу выдатныя здольнасці Ламаносава праявіліся так моцна, што за таленавітага юнака палічыў патрэбным уступіцца сам архіепіскап Феафан Пракаповіч, спадзвіжнік імператара Пятра Першага. І Ламаносава не выключылі з акадэміі, наадварот, у ліку лепшых дванаццаці вучняў адправілі атрымліваць вышэйшую адукацыю ва універсітэт пры Пецярбургскай акадэміі навук, а адтуль у ліку трох лепшых студэнтаў універсітэта — на пяцігадовую стажыроўку за мяжу, у Германію.

Вярнуўшыся на радзіму ў 1741 годзе, ён прымаецца за самастойныя навуковыя даследаванні і дасягае ў іх такіх відавочных поспехаў, што ўжо праз чатыры гады, 25 ліпеня 1745 года, руская імператрыца Лізавета — дачка Пятра Першага — падпісала загад аб узвядзенні Ламаносава ў члены Акадэміі.

У нашай краіне шануюць памяць М. Ламаносава. Яго імем названы вуліцы, плошчы, гарады, яго імя носіць буйнейшая вышэйшая навучальная ўстанова — Маскоўскі дзяржаўны універсітэт, заснавальнікам якога ён быў. Юбілей выдатнага рускага вучонага-энцыклапедыста адзначаецца шырока. Святкаванні праходзяць у Маскве, Ленінградзе і Архангельску — гарадах, звязаных з яго жыццём і дзейнасцю.

**Ігар ТРУТНЕЎ.**

П'ЕСА СЕЛЬСКАЙ ПІСЬМЕННІЦЫ — У 100 ТЭАТРАХ КРАІНЫ

# МАРАЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ВЁСКІ

**Празаік і драматург Ніна СЯМЁНАВА нарадзілася, жыве і працуе ў Смаленскай вобласці, шчодрай на таленты. Шырокую вядомасць пісьменніцы прынесла п'еса «Печка на коле», пастаўленая ў Маскоўскім тэатры імя Массавета і яшчэ ў 100 тэатрах нашай краіны, а таксама за мяжой.**

Ніна Сямёнава — светлавалосая, маладжавая, ветлівая. Ужо некалькі год пастаянна жыве ў невялікай вёсцы Касцінскае. Мясцовы калгас «Зара» ўваходзіць калі не ў пяцёрку, то ў дзесятку лепшых на Смаленшчыне. Яго старшыня Аляксандр Ігнаценкаў сёння завалены заявамі ад жадаючых паступіць у калгас.

Ніна Сямёнава расказвае аб калгасных справах з захапленнем, з веданнем справы.

— Сярэдні ўзрост калгаснікаў — 30 год. Сам старшыня ненамнога старэйшы. Жывуць добра. Цэнтральная сядзіба забудавана двухпавярховымі дамамі. Тут школа-дзесяцігодка, Дом культуры, дыскатэка, фізкультурны комплекс.

— Герой вашай п'есы «Тайны грэх старшыні Сашы» — спісаны з цяперашняга старшыні «Зары»?

— Не, хутчэй, з былога. Увогуле, «Зары» шанцуе на старшыняў. Цяперашняму дасталася ўжо моцная гаспадарка.

— Якія маральныя праблемы на вёсцы асабліва хвалююць вас сёння?

— Як вярнуць людзям любоў да зямлі...

Ідэал Ніны Сямёнавай — чалавек, блізкі да прыроды, працавіты, добразычлівы. Такі, напрыклад, яе вясковы знаёмец Валянцін, былы трактарыст. Ён паставіў у садзе Сямёнавай, як яна называе, «лазню», сімпатычны дамок «у два акны», які служыць пісьменніцы замест кабінета.

— Ледзь угаварыла Валянціна ўзяць грошы за «лазню», — расказвае Ніна Сямёнава. — Люба-дорага глядзець, як гэты чалавек працуе. І працуе не дзеля грошай, а дзеля самой работы. Вось хто па-сапраўднаму шчаслівы... У «лазні» Сямёнава працуе і адпачывае. Тут яна напісала новы сцэнарый — «Байка». Ён ужо прыняты «Масфільмам», але, нягледзячы на гэта, Сямёнава зноў пры мне перарабляла яго — ужо восьмы раз!

Малаша, гераіня «Байкі», такога ж тыпу чалавек. І таксама шчаслівая. ... і іншых хоча зрабіць шчаслівымі, але ...кі людзі не заўсёды разумеюць, у чым іх шчасце заключаецца. Будучы фільм — лірычная камедыя. Да яго здымкаў на «Масфільме» ўжо прыступаюць два пачынаючыя рэжысёры — Георгій Буркоў, вядомы кінаакцёр, і Герман Лаўроў, былы аператар. Буркоў выканае і галоўную мужчынскую ролю, напісаную спецыяльна для яго.

... А пачыналася ўсё ў Ніны Сямёнавай так. Маладая выпускніца Маскоўскага універсітэта прыехала настаўнічаць у вёску. Вечарамі пісала апавяданні і аднойчы, набраўшыся смеласці, паслала іх смаленскаму пісьменніку Мікалаю Рыленкаву. Апавяданні спадабаліся, і не толькі яму. Сельскую настаўніцу запрасілі ў Ленінград на семінар празаікаў. Было гэта ў 50-я гады. Як чалавеку, які падае надзеі, ёй далі тады пуцёўку ў Ялту ў Дом творчасці пісьменнікаў.

— Вось радасці было! Там знаходзіўся ў той час Твардоўскі,—успамінае Ніна Сямёнава. — Ён да мяне добра, сардэчна паставіўся. І пазней цікавіўся маім лёсам. Дзякуючы яму, у «Новом мире» і з'явілася мая аповесць «У нядзелю раніцай»...

Не зусім звычайна складваўся творчы лёс Ніны Сямёнавай. Яна дэбютавала ў 50-я гады як празаік, а поспех да аўтара шасці зборнікаў прозы прыйшоў толькі ў 80-я і як да драматурга. Калі ў сталічным Тэатры імя Массавета ў 1982 годзе адбылася прэм'ера яе п'есы «Печка на коле», Сямёнава ляжала ў смаленскай бальніцы з інфарктам. Гадзін у 12 ночы пачуўся міжгародні званок. Званілі з Масквы, з тэатра. Акцёры, вырываючы адзін у аднаго трубку, віншавалі аўтара з вялікім поспехам, дзякавалі за выдатныя ролі.

— А чаму вы перайшлі на п'есы?

— Апавяданні ў мяне сумныя выходзяць, а п'есы вясёлыя. Калі ад апавяданняў сэрца пачынае шчымець, я пераходжу на п'есы. Напрыклад, на традыцыйны семінар драматургаў у Дубултах на Рыжскім узмор'і прывезла п'есу «Тралейбус» — аб тым, як у калгас прыслалі тралейбус і што з гэтага атрымалася. П'есу раскрытыкавалі. Тады там жа, у Дубултах, напісала «Печку на коле».

Заўважу, што сёння ў нашым тэатральным мастацтве з'явілася цэлая плеяда жанчын-драматургаў, ледзь ці не самыя папулярныя п'есы апошняга часу напісаны жанчынамі. Чаму? У чым тут прычына? У таленце, у працавітасці, у свежым поглядзе на рэчы? Думаю, і ў тым, і ў другім, і ў трэцім.

**Мікалай НАЗАРАЎ.**

## *ПРЭМ'ЕРЫ, ВЫСТАЎКІ, СУСТРЭЧЫ*

### ПАКАЗВАЕ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ»

*Кінастудыя «Беларусьфільм» прапанавала ўвазе гледачоў дакументальны фільм «Прыцягненне сэрцаў». Ён расказвае пра паездку дэлегацыі Беларусі на Мадагаскар і Маўрыкій. Канцэрты, мастацкія выстаўкі, арганізаваныя падчас падарожжа савецкімі гасцямі, зноў ажылі ў кадрах гэтай стужкі.*

### «ЛЯВОНІХА» Ў МАСКВЕ

*Дзяржаўны ансамбль танца БССР выступіў з канцэртамі ў маскоўскім спартыўным комплексе «Алімпійскі». Беларускія танцоры выканалі вядомыя «Лявоніху», «Юрачку», а таксама новыя нумары «Пераступы» і «Груздаўская кадрыля» з праграмы, якую калектыў рыхтуе да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Над новымі харэаграфічнымі мініяцюрамі працуюць беларускія кампазітары Валерый Іваноў, Віктар Войцік і іншыя.*

### НАРОДЖАНА САДРУЖНАСЦЮ

*Прэм'ерай спектакля «Назначэнне» парадаваў мінчан Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы. Гэта новая работа прадугледжана дагаворам аб творчай садружнасці паміж беларускімі і эстонскімі майстрамі сцэны. Яе пастаноўку па п'есе А. Валодзіна ажыццявіў галоўны рэжысёр Талінскага рускага тэатра драмы Н. Шэйко.*

### РЭПЕЦІРУЕЦЦА «МІЛЬЯНЕРША»

*Маскоўскі тэатр аперэты адкрыў свой сёлетні сезон новай музычнай камедыяй «Мільянерша», створанай вядомым беларускім кампазітарам народным артыстам СССР Яўгенам Глебавым па аднайменнай п'есе Бернарда Шоў. Пачаў рэпетыцыі гэтага твора і тэатр музкамедыі ў Мінску. У хуткім часе гледачоў чакае прэм'ера.*

### ЛІТАРАТУРНЫ ВЕЧАР

*Вялікі літаратурны вечар адбыўся ў актавай зале Баранавіцкага тэхналагічнага тэхнікума — першы з цыкла вечароў, якія Саюз пісьменнікаў рэспублікі мяркуе рэгулярна праводзіць у гарадах, дзе знаходзяцца кнігарні — апорныя пункты выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Больш за 500 чалавек слухалі выступленні паэтаў В. Спрынчана, Ю. Свіркі, Я. Міклашэўскага, У. Скарынкіна, Н. Тулупавай, А. Зарыцкага.*

### ПРАГУЧАЛА Ў ПОЛАЦКУ

*У канцэртнай зале Полацка адкрыўся трэці канцэртны сезон. Пачаўся ён выступленнямі Мінскага камернага аркестра і саліста Маскоўскай філармоніі, арганіста Аляксандра Фісейскага. Гучалі творы кампазітараў позняга барока: Вівальдзі, Гендэля, Баха.*

### ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ШАСТАКОВІЧУ

*Фестываль сімфанічнай і камернай музыкі Дзмітрыя Шастаковіча прайшоў нядаўна ў Мінску. У канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі і ў зале на Залатой Горцы выступілі беларускія выканаўцы і госці з іншых гарадоў.*

### СЛОВА АБ ДРУЖБЕ

*У выдавецтве «Современник» у Маскве выйшла кніга «Браты родныя». Яна прысвечана дружбе народаў Расіі і Беларусі. Вядомыя пісьменнікі, публіцысты расказваюць на яе старонках аб сацыяльным і духоўным развіцці народаў гэтых рэспублік.*

*У кнізе апублікаваны творы Я. Купалы, К. Сіманава, В. Быкава і іншых беларускіх і рускіх майстроў слова.*

### НА СТАРОНКАХ «СУЗОР'Я»

*Супрацоўнікі ўкраінскага выдавецтва мастацкай літаратуры «Дніпро» рыхтуюць да выпуску раман-хроніку вядомага беларускага пісьменніка П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах».*

*Вось ужо чвэрць стагоддзя выдавецтва выпускае зборнік «Сузор'е», у якім публікуюцца лепшыя творы пісьменнікаў з саюзных рэспублік. У чарговы, дваццаць шосты выпуск зборніка ўключаны падборка вершаў Максіма Танка і проза Васіля Быкава.*

*НАШ КАЛЯНДАР*

# АБУДЖАЮЧЫ ПАЧУЦЦЁ ЎЛАСНАЙ ГОДНАСЦІ

У лістападзе споўнілася 80 гадоў беларускай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеце «Наша ніва». З'яўленне яе ў пачатку XX стагоддзя было не выпадковым. Гэта быў пераможны этап для беларускай літаратуры, грамадскай думкі і мастацкай культуры, гаворыць доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан у артыкуле «Пачатак, які не забудзецца». І далей зазначае, што сацыяльна-палітычным паскаральнікам гэтага пераходу павольнай і паступальнай эвалюцыі ў рэвалюцыйны скачок з'явілася рэвалюцыя 1905—1907 гадоў. Іменна ў гэты час нарадзіўся легальны беларускі друк, фарміравалася нацыянальная літаратура, мова.

«Наша ніва» была ў многім газетай супярэчлівай, не ўсе яе палажэнні мы сёння прымаем. Але бясспрэчна тое, што з'яўленне і выданне гэтай газеты было падзеяй неардынарнай. «Наша ніва» мела сваю праграму, у якой яна заклікала да ўдзелу ў рэвалюцыйным руху, да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, развіццё класавай самасвядомасці вясковага і гарадскога «рабочага люду», за асвету на роднай мове.

Аб грамадскім значэнні «Нашай нівы» Максім Багдановіч сказаў, што «яна прабіла сабе дарогу ў самыя глухія куткі Беларусі, у самыя цёмныя слаі насельніцтва. Для многіх тысяч людзей яна з'явілася першай газетай, прачытанай імі, першай крыніцай ведаў, якая не мела афіцыяльнага адбітку і была выкладзена простай і яснай мовай. Да беларускага селяніна, які зжыўся з думкай, што ён хам і яго мова хамская, «Наша ніва» на друкаванай мове звярталася, выклікаючы ў ім тым самым павагу і да яе, і да самога сябе, абуджаючы ў ім пачуццё ўласнай годнасці».

Галоўным сродкам барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне нашаніўскія дэмакратычныя сілы бачылі ў развіцці нацыянальнай мовы, літаратуры, розных відаў мастацтва. Лідэрам нацыянальнай культуры з'яўлялася беларуская літаратура. На старонках «Нашай нівы» ўпершыню ўбачылі свет паэмы Янкі Купалы «Курган», «Бандароўна», 170 яго вершаў і каля 30 артыкулаў. Больш як 130 вершаў і 40 апавяданняў Якуба Коласа, лепшыя творы Максіма Багдановіча, Цёткі, Максіма Гарэцкага, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Канстанцыі Буйло і іншых прафесійных і самадзейных паэтаў, публіцыстаў.

Перыяд, калі «Нашу ніву» ўзначаліў Янка Купала, быў вельмі важны і ў гісторыі газеты, і ў жыцці і творчасці самога паэта. Купала вярнуўся з Пецярбурга ў другой палове 1913 года, а з пачатку 1914 быў рэдактарам, а потым і выдаўцом «Нашай нівы». 28 верасня 1914 года ён пісаў Б.Эпімах-Шыпілу ў Пецярбург, што ўсю душу і ўсе сілы ўкладвае ў «Нашу ніву», якую стараецца паставіць па меры сіл і магчымасцей на належачую вышыню. Пытаўся, як падабаюцца апошнія нумары. Справа ў тым, што з пачаткам імперыялістычнай вайны газета выдавалася меншым памерам. Але Купала стараўся як у ідэйных, так і ў мастацкіх адносінах падняць узровень газеты.

«Наша ніва» займалася і выдавецкай дзейнасцю. З 1907 па 1913 год публікавала штогадовыя беларускія календары, альманахі «Зборнік «Нашай нівы» і «Калядная пісанка», паэтычныя і празаічныя зборнікі беларускіх пісьменнікаў, літаратуразнаўчыя працы, брашуры па эканоміцы і сельскай гаспадарцы, па фалькларыстыцы і мастацтвазнаўству, перакладныя творы.

На старонках «Нашай нівы» акрамя арыгінальных твораў беларускіх пісьменнікаў друкавалася вельмі многа самых разнастайных перакладаў з англійскай, нямецкай, нават кітайскай літаратур. З рускай, украінскай, польскай друкаваліся пераклады твораў Максіма Горкага, В. Брусава, У. Караленкі, Л. Талстога, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча, Э. Ажэшка, С. Жаромскага... Адзначаліся і юбілеі сусветна вядомых музыкантаў, кампазітараў, пісьменнікаў. Усё гэта спрыяла далучэнню беларускай літаратуры і беларускага чытача да вышынь сусветнай культуры, да ўсяго перадавога, прагрэсіўнага.

Адыграла газета вялікую ролю і ў станаўленні нацыянальнага мастацтва. Можна сказаць, што яна садзейнічала ўзнікненню і дзейнасці першага прафесійнага беларускага тэатра. «Наша ніва» асвятляла і давала ацэнку ўсім пастаноўкам трупы Ігната Буйніцкага, рэцэнзавала першыя пастаноўкі Купалавай «Паўлінкі». У якасці тэатральных крытыкаў выступалі вядучыя пісьменнікі: Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, З. Бядуля, М. Гарэцкі. Клопат газеты пра тэатр праявіўся і ў тым, што на старонках яе ў 1913 годзе быў аб'яўлены конкурс на стварэнне лепшай п'есы і абяцаны ганарар за творы-пераможцы. На жаль, першая сусветная вайна перакрэсліла гэтыя планы.

«Наша ніва» прапагандавала дасягненні навукі і культуры, прыродазнаўчых і сельскагаспадарчых ведаў. Яна ўмела гаварыць з простым чытачом на простай, вобразнай мове. Гэта была арыентацыя на асветніцтва і на народ. Народнасць была галоўным прынцыпам газеты. Яе чакалі ў аддаленых беларускіх вёсках. І ў той жа час падпісчыкамі яе былі вельмі вядомыя людзі не толькі ў Беларусі. Яе атрымліваў Максім Горкі, акадэмік Шахматаў, Адольф Чэрня з Чэ[illegible]авакіі і многія іншыя. Максім Горкі пі[illegible]: «Я звяртаю ўвагу скептыкаў на маладую літаратуру беларусаў, самага забітага народа ў Расіі, на работу людзей, якія згуртаваліся вакол газеты «Наша ніва». Варта паглядзець «Нашу ніву», яна шмат цікавага скажа».

**НА З[illegible]МКУ: г. Вільня. Тут знаходзілася рэдакцыя «Нашай нівы».**






**Новую праграму падрыхтаваў калектыў народнага ансамбля песні і танца «Беларусачка» з Маладзечна. Самадзейныя артысты паказалі яе жыхарам Берліна, Дрэздэна, Патсдама, куды іх запрасілі нямецкія сябры.** **Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ КРУГАСВЕТКА

Чалавек павінен умець не толькі глядзець, а ўглядацца і бачыць, не толькі слухаць, а ўслухоўвацца і чуць. І, канешне, цікавіцца... Такія думкі з'яўляюцца, калі чытаеш кніжку Г. Каханоўскага «Повязь часоў», што выйшла ў выдавецтве «Полымя».

Кавалачак роднай Беларусі — Маладзечаншчыну бачыш як бы ўласнымі вачамі. Аўтар паспявае палюбавацца някідкай прыгажосцю (умее бачыць!) роднай прыроды, апісаць найбольш значныя і цікавыя [illegible]і, што адбыліся тут ка[illegible]сьці, расказаць пра сённяшні дзень гэтых мясцін і, зразумела, пра людзей, тутэйшых ураджэнцаў, якія пакінулі добрую памяць па сабе, а таксама нашых сучаснікаў.

Калі чы[illegible]ш кніжку «Повязь часоў», здаецца, што менавіта вось у гэтай вёсцы нарадзіўся, жыў сам аўтар: так дасканала ведае ён яе, з такой любоўю гаворыць пра людзей, што жылі ці жывуць тут. Але перагорнеш наступныя старонкі — зноў адчуванне тое ж: ён менавіта з гэтага гарадка ці мястэчка...

Сапраўды, Генадзь Каханоўскі нарадзіўся на Маладзечаншчыне, працаваў там. Але галоўнае, што перад намі даследчык, даследчык па прызванню. Яму ўсё цікава, ён умее збіраць матэрыял і робіць гэта з захапленнем, такая работа дае яму радасць, задавальненне. Доўгі час Г. Каханоўскі працаваў дырэктарам Маладзечанскага краязнаўчага музея, многа карыснага зрабіў на гэтай ніве.

Імёны, падзеі, факты... У кніжцы «Повязь часоў» можна прачытаць пра Івана Рухлю з Вялікага Сяла, што за ўсходняй ускраінай Маладзечна, які выкладаў у Ваеннай акадэміі Генеральнага штаба (дарэчы, і сам скончыў яе), быў на пасадзе начальніка штаба Ваенна-паветраных сіл Чырвонай Арміі, потым намеснікам начальніка штаба Паўднёва-Заходняга і Сталінградскага франтоў... З гордасцю гаворыць аўтар і пра Фёдара Янкоўскага, былога партызанскага разведчыка, настаўніка беларускай мовы і літаратуры, потым выкладчыка Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага, прафесара, заслужанага дзеяча навукі БССР, літаратара, аўтара дзесяткаў кніг.

Тут прачытаеш і пра Максіма Такушэвіча — старога гусляра, «кажуць, апошняга на ўсёй Міншчыне», таленавітага майстра, рукамі якога зроблены шафы, ложкі, сані і нават музычныя інструменты. Гуслі Максіма Пятровіча захоўваюцца зараз у музеях Маладзечна і Мінска. На старонках кнігі Г. Каханоўскага знойдзем такія імёны, як Браніслаў Тарашкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Францішак Багушэвіч, Янка Купала і многія, многія іншыя, якія вы, паважаныя суайчыннікі, ужо не раз сустракалі на старонках нашай газеты. І яшчэ сотні імён, менш вядомых, а можа, і зусім незнаёмых раней.

У кніжцы шмат цікавых фактаў. Напрыклад, пра дачку беларускага драматурга В. Дуніна-Марцінкевіча — Камілу Вікенцьеўну, якая была выключнага таленту піяністка, спявачка. Яе ведалі і як кампазітара. Разам са сваім братам давала канцэрты, выконвала творы Ф. Шапэна, Ф. Ліста і іншых кампазітараў. «... Не выключана, што і для дзяцей беднаты ў Гарадку Каміла арганізоўвала такія канцэрты. Невядома, колькі б працягвалася яе жыццё ў Гарадку, калі б не паўстанне 1863—1864 гадоў, у якім яна непасрэдна ўдзельнічала. Была саслана ў Салікамск Пермскай губерні, вярнулася назад толькі ў 1880 годзе і неўзабаве памерла».

А гэтыя радкі сагрэты цёплым пачуццём аўтара да Максіма Багдановіча. «Тоненькія, кволыя дрэўцы трапечуць на ветры... Іх пасадзілі вясной 1981 года разам з працаўнікамі навакольных вёсак беларускія пісьменнікі. Максімаў сад, закладзены каля вёскі Ракуцёўшчына, дзе ў 1911 годзе паэт правёў два месяцы, поўныя напружанай натхнёнай творчай працы. Побач з мемарыяльным садам, на ўзгорку каля дарогі, — незвычайны памятны знак. Два камяні: адзін як застылы серабрыста-сталёвы факел, другі — грунтоўны, паўвогнуты, абодва ўвасабляюць акрыленасць і зямную жыццёвую сутнасць паэзіі Максіма, якая прарастае цудоўнымі ўсходамі ў сэрцах сучаснікаў і будзе дарагой і блізкай нашым нашчадкам».

У кніжцы шмат гістарычных даведак пра розныя мясціны Маладзечаншчыны, многа цікавых легенд і паданняў, звязаных з назвамі вёсак, гасцінцаў, замкаў, курганоў...

Г. Каханоўскі разам з чытачамі робіць «маладзечанскую кругасветку». Пасля гэтага «вандравання» па-іншаму ставішся да Маладзечаншчыны: хоць ты родам і не з гэтых мясцін, а ўсё роўна адчуваеш асаблівую гордасць за сваю Беларусь, часцінкай якой з'яўляецца багатая на падзеі і слаўных людзей Маладзечаншчына.

Ірына КАЗЛОВА.

# Памяці Мікалая УЛАШЧЫКА

**З Масквы прыйшла сумная вестка: 14 лістапада на 81 годзе жыцця памёр выдатны савецкі вучоны, літаратар, даўні сябар беларускіх пісьменнікаў Мікалай Улашчык. Усё свядомае жыццё яго прайшло за межамі Беларусі, але глыбокая духоўная повязь лучыла М. Улашчыка з бацькоўскай зямлёй. Свой душэўны агонь узяў Мікалай Мікалаевіч ад такіх вялікіх рупліўцаў, як У. Пічэта, ад літаратурнага «Маладняка», «узвышаўцаў».**

**Сапраўдным навуковым скарбам стала фундаментальная манаграфія М. Улашчыка «Перадумовы сялянскай рэформы 1861 года ў Літве і Заходняй Беларусі», прысвечаная сацыяльна-эканамічнаму стану краю, той глебе, на якой узнік сялянскі рух, а пазней паўстанне 1863 года. Затым была «Хроніка Быхаўца», суровы помнік гісторыі і шэдэўр беларускага пісьменства сярэдневякоўя, навукова агледжаны, пракаменціраваны і выдадзены М. Улашчыкам. З канца 60-х гадоў гісторык узяўся за падрыхтоўку выдання ўсіх беларуска-літоўскіх летапісаў. Гэта была адна з пазіцый у шырокай праграме вывучэння айчыннага крыніцазнаўства, якую здзяйсняў Інстытут гісторыі АН СССР. І сёння мы маем два вялікія фаліянты гэтых унікальных жывых дакументаў за пяць стагоддзяў, надрукаваных у серыі «Поўнага збору рускіх летапісаў». Сярод прац вучонага сотні не такіх вялікіх, але не менш цікавых публікацый. Сярод іх кніга археаграфічных нарысаў па гісторыі Беларусі XIX—XX стагоддзяў. Апошнюю сваю прыжыццёвую кнігу «Уводзіны ў беларуска-літоўскае летапісанне» М. Улашчык прывёз у Мінск летась...**

**Хаця навуковы інтарэс гісторыка быў скіраваны ў мінулае, уся спадчына М. Улашчыка сугучна нашым дням. Чэсць памяці нястомнага працаўніка.**

# крынічка

Яўген КРАМКО

## КАРОТКАЕ ВУХА

Аднойчы я штосьці майстраваў у двары і раптам чую: мая Алёнка крычыць:

— Дзед, дзядуля! Паглядзі, каго мы злавілі!

У руках унучка трымала зайчыка. Ён прытуліўся да грудзей дзяўчынкі і спалохана зіркаў па баках. Вушкі ляжалі на галаве, кончыкі іх дакраналіся да спіны.

— Паглядзі, дзед, у яго адно вушка кароткае, — сказала Алёнка і кранула зайчыка. Ён заварушыўся, узняў вушы. І сапраўды, адно з іх было карацейшае.

Зайчыка пасадзілі ў клетку. Алёнка з сяброўкамі нарвалі лістоў лопуху, палажылі зайчыку. Але ён нават не дакрануўся да ежы.

— Еш, дурненькі, еш, — угаворвалі яго дзяўчынкі, і адна з іх падсунула ліст бліжэй да зайчыка, але той і не крануўся з месца, толькі прыжмурыў вочы.

— Неслух які, — паскардзілася Алёнка. — Сам папрасіўся да нас, а есці не хоча.

— Як гэта папрасіўся? — спытаўся я.

— Мы па ўзлеску ідзём, прыглядаемся, кветак шукаем. А над намі каршун кружыць: то ўзляціць, то ўніз кінецца, пакружыць і зноў угору. Глядзім, аж раптам з травы на сцяжынку выскачыў ён, гэты зайчык, — і да нас. Падбег, прытуліўся да зямлі, дрыжыць, але не ўцякае. Я пачала яго гладзіць. Не бойся, кажу, дурненькі, мы табе крыўды не зробім. А ён туліцца да зямлі і дрыжыць яшчэ больш. А каршун кружыць ды кружыць. Што рабіць? Пакінуць зайчыка? Каршун яго схопіць. Тады Ала кажа: «Давай забяром, а потым прынясём сюды ды выпусцім». Вось мы яго і прынеслі.

— І што ж вы будзеце з ім рабіць? — спытаў я. — Можа, трэба занесці ў лес ды пусціць?

— Не, — запярэчыла Алёнка. — Ён жа зусім маленькі, згубіўся ад мамы, загіне адзін. — Яна пастаяла, падумала. — Давай падгадуем, — сказала, — а ўжо тады занясём у лес.

Так мы і вырашылі. А празвалі зайчыка Кароткае Вуха.

Больш месяца жыў ён пад наглядам дзяцей. Яны некалькі разоў на дзень прыносілі яму то лісце лопуху, то бацвінне, то морку, то хлеб. Кароткае Вуха вельмі прывык да дзяўчынак — толькі ўгледзіць іх ці пачуе голас каторай, так і бяжыць насустрач. Сядзе на заднія лапкі, пярэднія падыме і чысціць адна аб адну, быццам рыхтуецца ўзяць пачастунак.

Як толькі Кароткае Вуха падрос, дзяўчынкі надумаліся выпусціць яго на волю. Сонечным ліпеньскім ранкам пасадзілі зайчыка ў кошык, накрылі старым фартушком і пайшлі на той самы ўзлесак, дзе знайшлі яго. Паставілі кошык на зямлю, знялі фартушок. Кароткае Вуха ўзняў галаву, выглянуў і зноў прысеў у кошыку.

— Вылазь, дурненькі, у лес бяжы, — сказала адна дзяўчынка.

— Тут табе лепш будзе, вылазь, — сказала другая.

Але Кароткае Вуха і не крануўся з месца, яшчэ ніжэй прыгнуўся ў кошыку.

— Давай яго выкулім, — прапанавала Алёнка.

— Давай, давай, — загаманілі дзяўчынкі.

Апынуўшыся на зямлі, упарты зайчык абгледзеўся навокал і нетаропка пабег у бок лесу, схаваўся за першымі кустамі ядлоўцу.

— Бывай, Кароткае Вуха! Асцерагайся каршуна! Бегай хутчэй! — крычалі дзяўчынкі.

Неяк у канцы жніўня Алёнка з сяброўкамі выбраліся ў грыбы.

Выйшлі на ўзлесак. Раптам Алёнка насцярожылася:

— Ціха! Чуеце? Здаецца, сабака гоніць зайца.

Усе сціхлі.

І сапраўды — у лесе чулася: «Ях! Ях! Ях!..»

А далей было, як у казцы.

Па сцежцы да дзяўчынак імчаўся заяц. Не дабег крокаў тры, прысеў, стуліў вушы і прыпаў да зямлі.

Тут з лесу, прынюхваючыся да зямлі, выскачыў сабака.

Дзяўчынкі кінуліся да зайца і абкружылі яго. Ён не ўцякаў, яшчэ шчыльней туліўся да зямлі. Бакі яго то ўзнімаліся, то ападалі — так ён спалохана дыхаў. Калі Алёнка ўзяла зайца на рукі, шэры дрыжаў. З рук не вырываўся, а прытуліўся да грудзей дзяўчынкі.

— Дзяўчаты, глядзіце, гэта ж Кароткае Вуха? — сказала Алёнка, падняўшы зайцавы вушы.

І сапраўды — адно вуха было карацейшае.

## ЗАГАДКІ

Марыя БАРАВІК

Скажы на вушка,
Якая птушка
Маленькага росту,
Рыжахвостая,
З пер'я — не залатая,
А песня — ў душу залятае!..
(Салавей)

А гэтай хапае лета
На два гняздзечкі дзетак.
Спрыту не надзівіцца —
У лісцейку мітусіцца.
Якая гэта птушка,
Птушка-вяртушка,
Шчырая працаўніца?..
(Сініца)

Валянціна ЧЭРНІКАВА

Круглы,
З ружовым бокам,
Сонцам наліты, сокам —
На галінцы вісіць,
Ад ветру калыхаецца.
Як ён называецца?
(Яблык)

## ЖАРТЫ

Мілен скардзіцца ўрачу, што ў яго баліць правая нага.

— Гэта таму, што ты бегаў,— кажа ўрач.

— Не можа быць! — усклікнуў Мілен.— Чаму ж у мяне не баліць левая нага?

— Скажы, тата, ці праўда, што Зямля круціцца вакол Сонца?

— Праўда, Дарыя.

— А калі няма Сонца?..

— Што неабходна чалавеку для жыцця? — спытала настаўніца.

— Сонца, паветра, вада і... тэлевізар,— адказала Ільда.

Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ

Запрасіў бабёр аднойчы
Чарапаху ў госці.
Дзень прайшоў, палова ночы—
Не прыходзіць штосьці.
Толькі ранкам, на снyданне,
Госця завітала:
— На сяброўскае спатканне
Вельмі я спяшала.



Вырасту — буду асілкам. Фота Л. РАГІНСКАГА.

Іван ГАЛУБОВІЧ

## ЯК ВАВЁРАЧКА ЗІМУ СУСТРАКАЛА

*КАЗКА*

З ранку да вечара стараліся вавёрачкі. У дуплах дрэў назапасілі арэхаў, а на суччах грыбоў насушылі. Толькі адна вавёрачка да зімы не рыхтавалася. Скакала з галіны на галіну, вясялілася. Сонца высока падымецца, а яна яшчэ спіць. Думала, пэўна, што лету і канца не будзе.

Так і восень наступіла. Сонца ледзь свеціць, дожджык імжыць. Намокла футра ў вавёрачкі, а пагрэцца, абсушыцца няма дзе. Хутка і снег пайшоў, маразы прыціснулі. Холадна стала вавёрачцы, галадае. Хоць плач, такое гора звалілася. Убачыла яна на елцы акуратны домік і пастукала слабай лапкай у акенца. Глядзіць — аж там яе сястрычка жыве. «Ой, ты ж уся ад холаду дрыжыш,— паспачувала гаспадынька і запрасіла:— Хуценька ў домік залазь!»

Адагрэлася вавёрачка, выспалася. На сняданак сястрычка пачаставала яе духмяным баравічком. Запрашалі ў госці, дапамагалі вавёрачцы і іншыя сястрычкі. Грэлі яе ў сваіх доміках, дзяліліся арэхамі і сушанымі грыбамі.

А калі прыгрэла сонца і пачаў раставаць снег, вавёрачка сказала сваім сястрычкам: «Дзякуй вам! Не пакінулі мяне ў бядзе. Цяпер я ведаю, як трэба зіму сустракаць».

Сяргей НОВІК-ПЯЮН

## ЗАЛАТАЯ ВОСЕНЬ

Восень, восень залатая
Сее радасць на зямлі.
Хмарка ў сінім небе тае.
Мкнуцца ў вырай жураўлі.

Не чуваць у лесе птушак,
Летні гоман сціх і шум.
Матылькоў няма і мушак —
Луг ахутаў мілы сум.

Ніткай срэбнай павуцінне
У косах сонейка блішчыць.
Што за цуднае зіхценне!
Што за ціш вакол стаіць!

Я іду лясною сцежкай,
Як па мяккім дыване.
Восень з ветлівай усмешкай
На спатканне выйшла мне.

Ярка, хораша прыбрала
Усюды дрэвы і кусты
І зямлю памалявала
У колер жоўта-залаты.

Сяргей ГРАХОЎСКІ

## УСЁ ПРА МАШУ

Не зраблю, відаць, прамашку,
Расказаўшы ўсё пра Машку.

### МОДНІЦА

Падарылі Машы
Жоўтыя камашы
І зялёныя калготкі,
Фартушок далі кароткі,
Сарафан у кветкі,
Сінія шкарпэткі.
З белай воўны рукавічкі
Ёй звязалі дзве сястрычкі.
А каўнер з рудое ламы
Папрасіла Маша ў мамы
І угаварыла бабку,
Каб дала адзець ёй шапку.
Апранулася прыгожа
І... пайшла у падарожжа.
Думала зайсці у Дом мод,
Але Машы трэці год.

### БУДЗІЛЬНІК

Машы надта ж па душы
«Добрай ночы, малышы».
Як пачуе калыханку,
Дык засне і спіць да ранку.
Спіць і мама без клапот,
А ў кашы вуркоча кот,
Калыханку у паддашшы
Галубы спяваюць Машы.
Сніцца Машы дзіўны сон:
Звоніць, звоніць тэлефон,
Запрашаюць Машу ў госці
Да Аленкі і да Косці.
Будзе смачны там абед,
Хоць ісці не блізкі свет.
Маша кажа: «Дзякуй вам.
Нельга ж адмаўляць сябрам».
Раптам зноў пачуўся звон.
Гэта ўжо не тэлефон —
Звоніць на стале гадзіннік,
І не просты, а будзільнік:
Будзіць тату на завод.
У кашы вуркоча кот,
Фіззарадку робіць брат.
Машы час ісці ў дзетсад.

### «ПІЯНІСТКА»

Просіць Маша несупынна,
Каб купілі піяніна.
— Хочаш музыцы вучыцца,
Музыкантам быць у нас!
— Не, на зэдліку круціцца,—
Кажа Маша у адказ.

### ДВОЕ

Раніцай для Машы
Наварылі кашы,
Не ячменнай, таннае,
А найлепшай, маннае.
Сёння ў Машы выхадны.
Значыць, каша і бліны
Будуць на сняданне,
Калі Маша ўстане.
Маша любіць кашу,
Каша любіць Машу,
І ніхто ніколі іх
Не адолее ўдваіх.

### У МЕТРО

Ездзіць у метро аматар
Маша з мамай з першых дзён:
Узбяжыць на эскалатар
І спяшаецца ў вагон.
Ёй даюць адразу месца,
Бо такія ёсць правы.
Маша весела смяецца
І гаворыць: «Сядзьце вы».
«Дзякуй, дзетка», — бабка кажа
І частуе ледзянцом.
І усе ў вагоне Машу
Называюць ма-лай-цом.



**НАШ АДРАС:**

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1801